10 кастрычніка 2014 | № 38 (407)

# Новы час

novychas.info

•КУЛЬТУРА •ГРАМАДСТВА •ЭКАНОМІКА
•ЛЮДЗІ •ПАДЗЕІ •ФАКТЫ

ISSN 2218-2144



**Ніякіх выходных!** стар. 3

**5** «НУ ЯК У ВАС ТАМ, В БІЛОРУСІ, ЗОВСІМ ПОГАНО?»

«Пагана» — вельмі трапнае слова. Бо нібыта не так ужо і кепска ў нас, бывае значна горш, але «сапраўды пагана»...

**4** ДЗЕСЯЦЬ АВЕЧАК І ВЕЛІЗАРНАЯ КОЛЬКАСЦЬ ВОЎНЫ

Вера ў магчымасць немагчымага — важны элемент нашай культуры

**11** ВЯРНІЦЕ ЯДЗЕРНУЮ ЗБРОЮ

Ва Украіне ўсё часцей кажуць пра неабходнасць адмовы ад без'ядзернага статусу. Наколькі вялікія шансы ў Кіева папоўніць свой арсенал ядзернай зброяй?



**14–15** ПАЛАЦЫ АЛЕГА ХАМЕНКІ



Успаміны любога чалавека — гэта не толькі факты. Для мяне галоўнае — эмоцыі. У выпадку з вядомым музыкам Алегам Хаменкам — палац эмоцый

# Рэпрэсіі пад знешне-палітычныя грымасы

## У Беларусі з'явіўся яшчэ адзін палітвязень

Генадзь КЕСНЕР

**Відавочна, што ўлада не збіралася і не збіраецца мяняць сваю сутнасць. Пераслед дэмакратычных актывістаў, журналістаў-фрылансераў, штрафы і суткі апазіцыянерам — вось прыкмета найноўшага палітычнага сезона Беларусі. Як і з'яўленне новага палітычнага зняволенага.**

«Чалавек-майка», як сталі называць Юрыя Рубцова, быў затрыманы ў красавіку на дазволенай уладамі акцыі «Чарнобыльскі шлях» за майку з надпісам «Лукашэнка, сыходзь!». І вось праз шэраг затрыманняў і сутак, 6 кастрычніка суддзя Цэнтральнага раёна Мінска Наталля Вайцэховіч вынесла гомельскаму актывісту вырак — паўтара года абмежавання волі. Чалавека паважанага веку звінавацілі ў злачынстве, прадугледжаным артыкулам 391 Крымінальнага кодэкса «Абраза суддзі або народнага засядацеля». Дзяржаўны абвінаваўца Гардзеенка патрабаваў тры гады.

Па словах намесніка старшыні зачыненага ўладамі Праваабарончага цэнтра «Вясна» Валянціна Стэфановіча, які сачыў за працэсам над Рубцовым, гэта справа нарадзілася з такой праблемы, як адвольнае затрыманне, што выкарыстоўваецца ўладамі сістэмна і сістэматычна ўжо шмат гадоў.

«Упершыню такія затрыманні былі выкарыстаны масавым характарам у 2006 годзе перад выбарамі прэзідэнта. І зараз разам з крымінальнымі пераследамі па палітычных матывах гэтыя адвольныя затрыманні з'яўляюцца адным з відаў палітычных рэпрэсіяў у Беларусі. То бок, затрыманні і ізаляцыя людзей без прававых нагодаў, не ў сувязі са здзяйсненнем імі нейкіх супрацьпраўных дзеянняў, а ў іншых мэтах, магчыма, прафілактычных і прэвентыўных. Адны і тыя ж людзі ў нас пачынаюць рэгулярна «лаяцца матам» падчас значных грамадска-палітычных падзеяў. Як, да прыкладу, затрыманне Змітра Дашкевіча і Эдуарда Лобава перад 19 снежня 2010 года, якіх потым абвінавацілі ў хуліганстве, а задача ставілася затрымаць іх прэвентыўна. А зараз вось крымінальная справа Рубцова і даволі сур'ёзны прысуд», — адзначае юрыст.

**Свабоду палітвязням!**

Мікалай Статкевіч | Ігар Аліневіч | Эдуард Лобаў | Мікалай Дзядок | Яўген Васьковіч | Юрый Рубцоў | Арцём Пракапенка | Васіль Парфянкоў | ?

І каб жа ж толькі Рубцовым справы абмежаваліся! 27 жніўня кудысьці знік грамадскі актывіст з Быхаўшчыны Аляксандр Шачанок. У той дзень яго бачылі ў судзе Быхаўскага раёна, дзе адбывалася слуханне ягонай заявы наконт збіцця суседам і нанясення Шачанку цяжкіх цялесных пашкоджанняў. У Мінску на 15 сутак «за непадпарадкаванне супрацоўнікам міліцыі» затрымліваўся каардынатар «Еўрапейскай Беларусі» Максім Вінярскі, таксама на 15 сутак арыштоўвалі актывіста «Zмены» Ягора Вінярскага, а яшчэ аднаго прадстаўніка гэтай арганізацыі Віталя Васількова ўпяклі ў каталажку на 10 сутак за «дробнае хуліганства». 20 суткамі адміністрацыйнага арышту адзначыўся і шматдзетны бацька, дэмакратычны актывіст Ілля Дабратвор. Валанцёры ініцыятывы «Кіно ў пераходзе» Настасся Доль і Зміцер Латушкін атрымалі 6 і 5 сутак арышту адпаведна «за дробнае хуліганства і непадпарадкаванне супрацоўнікам міліцыі».

Ужо ледзь не прапісаўся з падачы праваахоўных органаў на завулку Акрэсціна ў Мінску актывіст моладзевага крыла «Zмена» грамадзянскай кампаніі «Гавары праўду», былы фігурант крымінальнай справы за падзеі 19 снежня 2010 года Павал Вінаградаў. Як распавядала жонка Вінаградава Святлана, 2 кастрычніка яе муж традыцыйна пайшоў адзначацца ў міліцыю, адкуль ужо не вярнуўся. Перад гэтым Вінаградаў затрымліваўся міліцыяй 11 верасня і атрымаў 15 сутак адміністрацыйнага арышту. На волю ён выйшаў 26 верасня і заявіў, што плануе далей займацца грамадскай дзейнасцю, нягледзячы на пагрозы і рэпрэсіі ўладаў. Дарэчы, сама мала да 25 кастрычніка маладзён будзе знаходзіцца пад прэвентыўным наглядам па ўсё той жа справе 19 снежня 2010 года.

Улады ўзяліся і за незалежных журналістаў. Ім нават не перашкодзіў наданы прыезд у Беларусь прадстаўніка АБСЕ па пытаннях СМІ Дуні Міятавіч. Пад пераслед за працу на замежныя медыі трапілі бабруйская журналістка Марына Маўчанава (штраф 4 мільёны 800 тысяч рублёў), брэсцкі журналіст Яўген Скрабец, гродзенцы Алесь Залеўскі, Аляксандр Дзянісаў, а таксама Андрэй Мялешка. Суддзя Гродзенскага раённага суда Ганна Лявусік 7 кастрычніка прызнала Андрэя Мялешку вінаватым у парушэнні арт. 22.9. ч. 2 КаАП і пастанавіла спагнаць з яго 5 мільёнаў 250 тысяч рублёў штрафу за «незаконны выраб і распаўсюд прадукцыі СМІ».

Па гэтым жа артыкуле праходзіць і магілёўскі журналіст Алесь Буракоў, якога абвінавачваюць у супрацоўніцтве з «Deutsche Welle». Дарэчы, у Буракова і ягоных бацькоў прайшлі агляды, у выніку якіх у журналіста забралі на экспертызу два ноўтбукі і два стацыянарных кампутары, якія, праўда, потым вярнулі. У Гомелі пракурорскія папярэджанні атрымалі Мікалай Бабенка і Юлія Слівец.

І такія прыклады можна яшчэ прыводзіць і прыводзіць. Некаторыя заходнія палітыкі ўжо не разглядаюць беларускага кіраўніка ў якасці «апошняга дыктатара Еўропы», аддаючы «даніну» за ягоную замірэнчую пазіцыю ў расійска-ўкраінскім канфлікце. Натуральна, што Пуцін з ягонымі імперскімі замашкамі прыцягвае больш увагі і выклікае пачуццё большай небяспекі на Захадзе.

Але цяплей ад гэтага ўнутры самой Беларусі не робіцца. Кіраўніцтва краіны працягвае палітыку жорсткага пераследу іншадумцаў, журналістаў, актывістаў, адначасова разлічваючы на размарозку стасункаў з цывілізаваным светам. Вось толькі ці адбудзецца гэтая размарозка, асабліва напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў 2015 года? Калі цяперашняя ўнутраная палітыка Лукашэнкі і яго памагатых будзе працягвацца, то наўрад ці.

## НАВІНЫ РЭГІЁНАЎ

### САЛІГОРСК. Крымінальная справа «за чырвоную паласу»



**Крымінальную справу «за апаганьванне» 15-метровага знаку на ўездзе ў сталіцу шахцёраў збіраецца заводзіць салігорская міліцыя. Гаворка пра сімвалічную акцыю арт-групы «Партызан» да гадавіны Аршанскай бітвы.**

Інфармацыю аб падрыхтоўцы крымінальнай справы мясцовы праваабаронца Леанід Мархотка атрымаў ад начальніка аддзела аховы правапарадку і прафілактыкі Георгія Крывальцэвіча, адказнага за апазіцыю ў Салігорскім РАУС. На дадзены момант ладзіцца пракурорская праверка і збіраюцца матэрыялы.

— Гэты знак не з'яўляецца помнікам культуры, які ахоўваецца дзяржавай. Чырвоная паласа на ім, мяркуючы па фота ў інтэрнэце, не ўтрымлівала аніякіх цынічных надпісаў ці малюнкаў. Таму не зусім зразумела, у чым выявіліся вандалізм і апаганьванне, — кажа праваабаронца. — На маю заўвагу з гэтай нагоды спадар Крывальцэвіч адкрытым тэкстам сказаў, што ёсць каманда ад вышэйшага кіраўніцтва распачаць справу. У выніку хутка будзем мець нейкую абсурдную крыміналку «за чырвоную паласу».

Раней намеснік Крывальцэвіча маёр Яўген Жылінскі заяўляў, што аніякага крыміналу ў гэтай чырвонай паласе няма. Па яго словах, знак не быў сапсаваны, бо чырвоная паласа была не намаляваная, а аздобленая чырвонымі шпалерамі.

Зрэшты, дадзеная справа ўжо стала нагодай для праследу вядомых моладзевых актывістаў гораду. У межах праверкі па справе былі апытаныя маладафронтаўцы Андрэй Тычына і Іван Шыла, а ў актывіста «Еўрапейскай Беларусі» Уладзіміра Лемеша быў праведзеныператрус з канфіскацыяй апазіцыйнай сімволікі і літаратуры.

### БАРАНАВІЧЫ. Пікет да ўгодкаў «крыштальнай ночы» беларускай культуры




**Грамадская актывістка Анжаліка Камбалава 6 кастрычніка падала заяву на імя старшыні Баранавіцкага гарвыканкама аб правядзенні адзіночнага пікета, прысвечанага памяці ахвяр сталінскіх рэпрэсій.**

Правядзенне пікета запланавана да 77-х угодкаў «крыштальнай ночы» беларускай культуры, якая адбылася з 29 на 30 кастрычніка 1937 года. Менавіта ў гэтую ноч супрацоўнікі НКУС расстралялі ў мінскай турме 22 беларускіх пісьменнікі і больш за 80 прадстаўнікоў інтэлігенцыі нашай краіны.

— Нягледзячы на тое, што падзеі гэтай жахлівай ночы беларускай культуры дакументальна аднавіў у сваёй кнізе «Ахвяры і карнікі» пісьменнік-даследчык Леанід Маракоў, але нашае грамадства мала ведае праўды пра расстрэлы сталінскіх часоў, асабліва моладзь. Таму мы ўскладзем кветкі, запалім знічкі каля крыжа сталінскіх ахвяр і ўшануем памяць нявінна забітых беларускіх дзеячаў культуры, каб такія трагічныя падзеі ў нашай гісторыі больш не паўтарыліся, — паведаміла Анжаліка Камбалава.

Пікет запланаваны на 30 кастрычніка ў старым парку горада, які рашэннем Баранавіцкага гарвыканкама вызначаны месцам масавых мерапрыемстваў.

### БАБРУЙСК: На ТДіА зноў звальненні



**Адміністрацыя бабруйскага завода ТДіА (трактарных дэталяў і агрэгатаў) працягвае пазбаўляцца ад сябраў пярвічкі Свабоднага прафсаюза Беларускага.**

На гэты раз працоўных месцаў пазбавяцца Алег Шаўчэнка, Аляксандр Бенасік і Мікалай Жыбуль. Нагадаем, што зусім нядаўна кантракты таксама не працягнулі з Аляксандрам Варанкіным і Аляксандрам Грамыка.

Мікалаю Жыбулю заставалася дапрацаваць да пенсіі ўсяго два гады. Ён адпрацаваў на ТДіА 30 гадоў, але раптам яго скарацілі «ў сувязі з аптымізацыяй колькасці працоўных». Пры гэтым завод пастаянна размяшчае абвесткі аб пошуку рабочых.

Сябры СПБ звязваюць непрацяг кантрактаў з прафсаюзнай прыналежнасцю, а таксама з тым, што яны не баяліся адстойваць свае працоўныя правы — гэта вельмі не падабалася дырэктару завода Аляксандру Аграновічу.

**Паводле spring96.org**

# Журналіста аштрафавалі

**Суддзя Ленінскага раённага суда Алена Волкава прызнала яго вінаватым у парушэнні заканадаўства аб сродках масавай інфармацыі.**

Алеся Буракова пакаралі за вытворчасць і распаўсюд інфармацыі для радыё «Deutsche Welle». Нагодай для адміністрацыйнай справы стаў артыкул, які быў размешчаны на сайце радыёстанцыі і быў падпісаны яго прозвішчам.

Прыкладам «незаконнай прадукцыі», якую нібыта «вырабіў і распаўсюдзіў» журналіст, суд палічыў размешчаны на сайце DW.de 25 жніўня 2014 года артыкул «Тропой контрабандиста: работают ли российские санкции в приграничье?» за подпісам Аляксандра Буракова і некаторыя іншыя публікацыі. Артыкулы на сайце рускай службы радыё «Deutsche Welle» сталі таксама падставай дляператрусу ў яго асабістай кватэры і кватэры яго бацькоў 16 верасня.

«Я падлічыў, што на кожны рубель майго штрафу дзяржава выдаткавала два альбо тры», — заявіў пасля заканчэння суда 8 кастрычніка службе маніторынгу ГА «БАЖ» Аляксандр Буракоў. З матэрыялаў адміністрацыйнай справы вынікае, што толькі на экспертызу забраных у яго кампутараў пайшло 5 мільёнаў рублёў. А з улікам праведзеных цэлай групай міліцыянтаўператрусаў і двухдзённага разгляду яго справы ў судзе, гэтая сума істотна вырасла, разважае журналіст.

Пасля атрымання матывацыйнай часткі рашэння ён збіраецца абскарджваць яго ва ўсіх магчымых інстанцыях аж да Камітэта па правах чалавека ААН.

Буракоў сваёй віны не прызнаў.

**Беларуская асацыяцыя журналістаў**

# Яўгена Васьковіча пераводзяць

**Заканчваецца трохгадовы тэрмін адбыцця пакарання ў турме строгага рэжыму палітвязня Яўгена Васьковіча. На працягу некалькіх дзён Яўген будзе пераведзены з турмы №4 у калонію №15. Абедзве ўстановы знаходзяцца ў Магілёве.**

12 кастрычніка 2011 года ў выніку рашэння атэстацыйнай камісіі Яўген Васьковіч быў абвешчаны злосным парушальнікам і быў пераведзены ў магілёўскую турму строгага рэжыму.

У турме Яўген прайшоў праз ціск, абмежаванні, шматлікія змяшчэнні ў ШЫЗА.

247 — дакладная колькасць сутак, якія Яўген правёў у штрафным ізалятары магілёўскай «крыткі». Ён вытрымаў. Падпісваць прашэнне аб памілаванні палітвязень неаднаразова катэгарычна адмаўляўся.

Аргкамітэт па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя» заклікае дасылаць лісты падтрымкі палітзняволенаму сябру БХД Яўгену Васьковічу. Лісты падтрымкі неабходна пісаць на новы адрас: Папраўчая калонія №15, 213105, г. Магілёў, Слаўгарадская шаша, п/а Вейна.

**Прэсавая служба БХД**

# Курапаты зноў пад пагрозай

Марат ГАРАВЫ

**Улады збіраюцца звузіць ахоўную зону вакол Курапатаў. Пра такі намер сведчаць як сама гісторыя пытання ахоўнай зоны, так і ліст намесніка міністра культуры Аляксандра Яцко на пісьмовы зварот абаронцаў Курапатаў.**

У сваім лісце намеснік міністра, між іншым, нагадвае, што межы зонаў аховы (ахоўнай зоны, зоны рэгулюемай забудовы і зоны аховы навакольнага асяроддзя) матэрыяльнай нерухомай гісторыка-культурнай каштоўнасці «Месца згубы ахвяраў палітычных рэпрэсій 30–40-х гадоў ХХ стагоддзя ва ўрочышчы «Курапаты» зацверджаны пастановай №15 Міністэрства культуры ад 12 мая 2004 года на перыяд да распрацоўкі горадабудаўнічага праекту стадыі «Дэтальны план».

Затым спадар Яцко адзначае, што «ўнясенне змяненняў у прынятыя нарматыўныя акты з улікам іх абгрунтаванасці і ў мэтах прывядзення ў адпаведнасць з дзеючым заканадаўствам з'яўляецца агульнапрынятай нормай».

Далей у лісце паведамляецца пра рашэнне Мінскага аблвыканкама №8743 ад 28 снежня 2012 года аб распрацоўцы праекта дэтальнага плану (ПДП) тэрыторыі вакол Курапатаў, а таксама пра даручэнне ўраду Мінскаму абласному і Мінскаму гарадскому выканкамам у 2014 годзе распрацаваць ПДП тэрыторыі, адведзенай пад размяшчэнне Міжнароднага выставачнага комплексу на полі з усходняга боку Курапатаў. Урэшце, як падкрэсліваецца ў лісце, вышэйпазначанай горадабудаўнічай дакументацыяй будзе забяспечана, у тым ліку, «і зацвярджэнне Міністэрствам культуры межаў зон аховы гісторыка-культурнай каштоўнасці, зыходзячы з прынятага заніравання тэрыторыі і стварэння інфраструктуры з улікам захавання адметных вартасцяў помніка гісторыі».

У звароце ва ўрад абаронцы Курапатаў звярнулі ўвагу на тое, што цягам больш як 20 гадоў для Курапатаў не распрацаваны і не зацверджаны Міністэрствам культуры праект зонаў аховы гэтага выбітнага помніка трагедыі беларускага народу. Замест гэтага сталага праекту дзейнічае часовая (на перыяд да распрацоўкі горадабудаўнічага праекту стадыі «Дэтальны план») схема зонаў аховы Курапатаў, зацверджаная 12 мая 2004 года. Але самае галоўнае ў тым, што, згодна заканадаўству, спачатку павінен зацвярджацца праект зонаў аховы Курапатаў, а ў залежнасці ад яго весціся распрацоўка горадабудаўнічай і землеўпарадкавальнай дакументацыі, а таксама іншай праектнай дакументацыі, рэалізацыя якой можа аказаць уздзеянне на каштоўнасць. Аднак робіцца наадварот.

Згодна з адказам з Міністэрства культуры ад 6 сакавіка 2014 года, абавязак па распрацоўцы праекту зонаў аховы Курапатаў ускладзены на суб'екты гаспадарання, якія ў сваіх інтарэсах плануюць і ўзводзяць аб'екты гаспадарчага прызначэння на недатыкальнай тэрыторыі ахоўнай зоны каштоўнасці, устаноўленай часовай схемай зонаў аховы Курапатаў згодна пастанове Міністэрства культуры №15 ад 12 мая 2004 года. Пра гэта сведчыць прыклад будаўніцтва аб'екту прыдарожнага сервісу на 51-м кіламетры МКАД з былой назвай «Бульбаш-хол», калі СТАА «БелРэстІнвест» самавольна і незаконна ўзвяло на недатыкальнай тэрыторыі ахоўнай зоны Курапатаў з іх заходняга боку шэраг аб'ектаў (чатыры дамкі модульнага тыпу, частку будынку рэстарана і дзіцячую пляцоўку), што не маюць аніякага дачынення да каштоўнасці.

Другім такім прыкладам можа стаць праектаванне і будаўніцтва на полі каля ўсходняй мяжы Курапатаў Міжнароднага выставачнага цэнтру, бо ўжо адпрацаваны адваротны прадугледжанаму законам алгарытм дзеянняў: спачатку рыхтуюцца праекты горадабудаўнічай, землеўпарадкавальнай і іншай праектнай дакументацыі, а ў залежнасці ад іх — праект зонаў аховы Курапатаў.

Паколькі ў выніку такіх дзеянняў будзе неапраўдана і насуперак закону няўхільна звужацца ахоўная зона Курапатаў, ягоныя абаронцы лічаць, што Міністэрства культуры ў межах сваёй кампетэнцыі не выконвае абавязак дзяржаўнай структуры па ахове Курапатаў.

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Ніякіх выходных!

Сяргей САЛАЎЁЎ

**На гэтым тыдні Расія была як ніколі блізкая да рэвалюцыі. Толькі недасведчанасць расійскай «глыбінкі» і працоўнага люду дазволіла гэтай рэвалюцыі пазбегнуць.**



Справа ў тым, што Міжнародная арганізацыя працы на тыдні прапанавала сваім сябрам, у лік якіх уваходзіць як Расія, так і Беларусь, скараціць працоўны тыдзень да чатырох дзён. У МАП знайшлі ў «чатырохдзёнцы» шмат плюсаў. Напрыклад, гэта павялічыць колькасць працоўных месцаў, палепшыць здароўе працоўных, бо многія захворванні ў сучасным свеце выкліканыя перапрацоўкамі, пастаянным знаходжаннем у офісе і стрэсам. Акрамя таго, розныя даследаванні паказваюць, што людзі больш прадуктыўныя, калі працуюць менш, а «офісны планктон» часцяком толькі імітуе бурную дзейнасць.

Таксама ў рэкамендацыях МАП адзначылі, што людзі з больш кароткім працоўным тыднем часцей адчуваюць сябе шчаслівымі і задаволенымі жыццём, а працяглая праца прыводзіць да канфліктаў не толькі ў офісе, але і дома. Яшчэ адным важкім аргументаў на карысць скарачэння колькасці працоўных гадзін назвалі станоўчы ўплыў на навакольнае асяроддзе. Пазітыўны эфект будзе дасягнуты проста за кошт скарачэння колькасці паездак людзей на працу і назад, што не толькі паспрыяе экалогіі ў свеце, але і зэканоміць на паліве некалькі мільярдаў грошай у тыдзень.

Але віцэ-прэм'ер РФ Вольга Галадзец заявіла, што пераход на чатырохдзённы працоўны тыдзень у Расіі немагчымы. «На сёння мы не можам сабе гэтага дазволіць. «Чатырохдзёнка» — гэта пакуль для нас мара», — цытуе віцэ-прэм'ера РІА «Новости».

Калі б працоўныя Расіі даведаліся пра рэкамендацыі МАП, і пра адмову ад гэтай прапановы свайго кіраўніцтва, гэтае кіраўніцтва не пратрымалася б і тыдня. Але ж не даведаліся.

Прычым тут Беларусь? Наша краіна — таксама сябра МАП. Больш за тое, мы крок у крок паўтараем расійскія навацыі ў розных сферах. І калі б там прынялі «чатырохдзёнку», мы б таксама скокнулі ў гэтым кірунку. І ў гэтым для нашай краіны плюсы былі б відавочныя. Найперш, мы б узаконілі тую «чатырохдзёнку», якая ўсё больш і больш уводзіцца на некаторых прадпрыемствах. Не таму, што гэтыя прадпрыемствы пяшчотна ставяцца да рэкамендацыяў МАП, а таму, што проста не могуць прадаць тую прадукцыю, якой склады ўжо і так перапоўненыя. Па-другое, як адзначаў былы міністр працы Аляксандр Сасноў, мы б зэканомілі мільярды не толькі на транспарце, але і на заробках працоўным. Што ж да стварэння працоўных месцаў, то, паводле афіцыйнай статыстыкі, у нас беспрацоўя і так няма. Адзінае, з чым не згодны адмыслоўца, — з тым, што «чатырохдзёнка» прывядзе да паляпшэння здароўя. «За час, вызвалены ад працы, пачнуць у нас толькі больш гарэлкі піць ды есці скварку», — заявіў Сасноў «Радыё Свабода».

**Пераход на чатырохдзённы працоўны тыдзень у Расіі немагчымы. «На сёння мы не можам сабе гэтага дазволіць. «Чатырохдзёнка» — гэта пакуль для нас мара»**

Шчыра кажучы, Сасноў не мае рацыі. Бо ў адных «нас», тых, якія працуюць на «чатырохдзёнкавых» прадпрыемствах, сапраўды ёсць час для адпачынку. А іншым і 24-х гадзінаў у суткі не хапае.

Ствараемае ў нас ЕАЭС прымушае працаваць у аўральным парадку дэпутатаў, бо на ратыфікацыю дамовы аб Еўразійскім эканамічным саюзе, якая складае больш за 800 старонак, ім адвялі адзін дзень — 9 кастрычніка. Прычым, адвялі гэты дзень абедзвюм палатам — Палаце Прадстаўнікоў і Савету Рэспублікі. А да гэтага напружана працавалі розныя профільныя «перамоўшчыкі».

Беларусь і Расія дамовіліся аб механізме кампенсацыі страт «сінявокай» ад падатковага манеўру ў нафтавай галіне Расіі. Нагадаем, што ў сувязі з дамовай пра ЕАЭС Беларусь павінная пакідаць у сябе частку грошай ад расійскай экспартнай пошліны на нафту. Расія ж зрабіла «фінт вушамі», замяніўшы гэтую пошліну ўнутраным падаткам на здабычу карысных выкапняў. У выніку Беларусі ад ЕАЭС не засталося амаль ніякай выгады. Таму мы ціснулі на «старэйшага брата»: у Маскву на перамовы лятаў віцэ-прэм'ер Сямашка, а сам прэм'ер Міхаіл Мясніковіч сустрэўся ў Сочы з расійскім віцэ-прэм'ерам Аркадзем Дварковічам. Дварковіч і паведаміў — дамовіліся. Але пра што і на якіх умовах — не сказаў.

Даволі складаная сітуацыя і з «харчовым Кландайкам». Рассельгаснагляд, які вельмі незадаволены тым, што «харчовае эмбарга Расіі» ператварылася ў Беларусі ў выгадны бізнэс па кантрабандзе еўрапейскіх прадуктаў, прапанаваў зрабіць сумесны каранцінны фітасанітарны кантроль на знешняй мяжы Мытнага саюза. Кіраўнік беларускага ж Мінсельгасхарчу Леанід Заяц заявіў, што ў нас «дастаткова кампетэнтныя спецыялісты, якія прадстаўляюць інтарэсы нашай краіны ў плане прыняцця правільных рашэнняў па ўвозу той ці іншай прадукцыі».

Зразумела ж, у нас дастаткова такіх спецыялістаў. Але справа ў тым, што ў гэтым выпадку «інтарэсы нашай краіны» і інтарэсы Расіі карэнным чынам розняцца.

Зачапіўся Рассельгаснагляд і за Аршанскі мясакансервавы камбінат. Маўляў, у ягонай варанай каўбасе знайшлі геном віруса афрыканскай чумы свіней. «Там у прынцыпе не павінна быць геному віруса АЧС, бо на прадпрыемства не пастаўлялася прадукцыя сумнеўнай якасці», — апраўдваўся той жа Заяц.

А чаго апраўдвацца? АЧС — гэта хвароба свінняў, для чалавека гэты вірус бяскрыўдны. Калі ж расіяне кормяць свінняў прадукцыяй нашага Аршанскага мясакамбіната... Пры Сталіне тых, хто свінняў хлебам карміў, на 10 год саджалі, а каб яны кармілі свінняў варанай каўбасой, пэўна, іх бы расстрэльвалі. Каўбаса патрэбная людзям, а не свінням!

У Беларусі плануюць стварыць новую авіякампанію. У нас яшчэ недабудаваная АЭС. Нам трэба вырошчваць кавуны. У нас багата планаў і задумаў, і таму нам, хутчэй, «шасцідзёнку» трэба ўводзіць, каб з усім гэтым разгрэсціся. Ні пра якую «чатырохдзёнку» размовы не ідзе.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Ігар Шчука



**Сябра аргкамітэта па стварэнні ў Беларусі Нацыянал-бальшавіцкай партыі можа быць першым чалавекам, у дачыненні да якога будзе прыменены артыкул нашага Крымінальнага Кодэкса «найміцтва».**

Не так даўно старшыня КДБ Валер Вакульчык заявіў, што грамадзяне Беларусі, якія ваююць у Данбасе (не мае значэння, на якім баку), падлягаюць адказнасці паводле Крымінальнага кодэкса. Шчука ваяваў у Данбасе на баку сепаратыстаў.

Як паведаміў сам Шчука, да ягонай маці прыходзілі супрацоўнікі пракуратуры. «Як я зразумеў, крымінальная справа заведзеная за злачынства супраць чалавечнасці і за ўдзел у ваенных дзеяннях на тэрыторыі замежнай дзяржавы», — заявіў ён.

Прэс-служба нацболаў распаўсюдзіла заяву, што Шчука ездзіў на Данбас у якасці блогера: «Вясной гэтага года Шчука ў ліку іншых актывістаў партыі «Іншая Расія» з'ехаў у Крым. Затым быў на Данбасе, дзе асвятляў падзеі ў якасці блогера». Але ў чэрвені Шчука не пазіцыянаваў сябе як блогера, а заяўляў, што ўдзельнічае ў баявых дзеяннях. «Мы паехалі ў Сімферопаль і дапамагалі там так званым «ветлівым людзям». Пасля паехалі ў Данецк, там штурмавалі Аблдзяржадміністрацыю, СБУ. Пасля таго, як там сфармаваўся нейкі ўрад, мы паехалі ў Краматорск. Зараз тут дапамагаем, як можам», — распавядаў ён у чэрвені ў інтэрв'ю радыё «Свабода».

Ігар Шчука родам з беларускага Салігорску, удзельнік пратэстных акцый, арганізаваных нацболамі. Неаднаразова падвяргаўся пераследу з боку беларускіх уладаў.

## Міхаіл Ежэль



**Пасол Украіны ў Беларусі можа стаць чарговым чыноўнікам, які папросіць у Аляксандра Лукашэнкі палітычнага прытулку. Яго з нецярпеннем чакаюць ва Украіне, каб абраць яму меру стрымання.**

Галоўны ваенны пракурор — намеснік генпракурора Украіны Анатоль Маціяс паведаміў, што за апошнія 10 гадоў ва ўкраінскае заканадаўства было ўнесена больш за 600 зменаў, якія фактычна разбурылі сістэму і функцыянаванне ўзброеных сіл альбо падарвалі абараназдольнасць Украіны. Крымінальная вытворчасць распачатая па факце неналежнага выканання службовых абавязкаў кіроўным складам Міністэрства абароны і Генштабу тых часоў. Прадметам расследавання сталі ў тым ліку рашэнні Ежэля, які таксама ў свой час быў міністрам абароны Украіны.

Маціяс паведаміў, што Ежэлю прад'яўлена ўведамленне аб падазрэнні, і па законе экс-міністр меў 72 гадзіны на пошук абаронцы. Ежэль паехаў «збіраць рэчы» ў Беларусь, і ў той жа дзень захварэў і трапіў у цэнтральны клінічны шпіталь Беларусі, дзе і знаходзіцца ў рэанімацыі.

«Чакаем, калі ён выйдзе, каб абраць яму меру стрымання. У нас не было ніводнага законнага рычага, каб затрымаць яго на мяжы, бо аўто дыпламатычнае. Украінскі закон не дае нават магчымасці вызваліць яго ад пасады пасла», — засмуціўся Маціяс.

## Віталь Коваль



**Галкіпер зборнай Беларусі і «Салавата Юлаева» прызнаны лепшым варатаром мінулага тыдня Кантынентальнай хакейнай лігі.**

Як паведамляе афіцыйны сайт лігі, з трох матчаў два ён правеў «на нуль», прапусціўшы ў сярэднім 0,33 шайбы за гульню і адбіўшы 98,82 адсотка кідкоў.

Лепшым абаронцам стаў Арцём Зямчонак з «Адмірала», які ў трох матчах набраў 2 (1+1) балы і паказчык карыснасці «+5».

Лепшым нападаючым прызналі Аляксандра Радулава (ЦСКА), які ў трох матчах набраў 7 (5+2) балаў, закінуў тры пераможныя шайбы і дамогся паказчыка карыснасці «+3». А лепшым навічком стаў Даніла Раманцаў з «Югры», на рахунку якога 3 (2+1) балы і паказчык карыснасці «+3» у трох згуляных сустрэчах.

а | Азбука паліталогіі



Сяргей НІКАЛЮК

# Дзесяць авечак і велізарная колькасць воўны

**Вера ў магчымасць немагчымага — важны элемент нашай культуры. Па прыклады далёка хадзіць не трэба.**

12 верасня ў Беларусі была знойдзена крыніца рэсурсаў, здольная ўдыхнуць новае жыццё ў нашу ўнікальную сацыяльна-эканамічную мадэль. Кожны чытач «НЧ» здольны адразу назваць імя яе першаадкрывальніка спробы, таму я не буду спыняцца на непатрэбных падрабязнасцях, а пачну з ключавой цытаты: *«Это прорыв в стране. Это дороже золота и золотовалютных резервов»*.

Паведамленні пра адкрыцці такога маштабу ўвайшлі ў нас у традыцыю. Адзін прыклад: *«Премьер-министру я сегодня говорю, конечно, с сожалением говорю, что мне опять этим приходится заниматься. Потому что сегодня та же картошка и продукция сельского хозяйства — золото, это дороже нефти. Картофель — рентабельность 100 процентов, даже больше будет при нынешних ценах»*.

Сказана гэта было 16 кастрычніка 2010 года на VI з'ездзе ФПБ. Даклад быў апублікаваны ў прэсе пад загалоўкам *«Наша цель — создать обновленный облик Беларуси»*. Пагадзіцеся, абнавіць аблічча Беларусі з дапамогай вырошчвання бульбы — гэта дорага каштуе, гэта, між іншым, робіць бессэнсоўнымі чарговыя разборкі з Расіяй з нагоды «падатковага манеўру».

Пры такім узроўні рэнтабельнасці ў бульбаводстве мы лёгка заткнем за пояс азіяцкіх «тыграў» па тэмпах эканамічнага росту. Адзінае, што мяне бянтэжыць — узровень прафесіяналізму работнікаў Нацыянальнага статыстычнага камітэта. За студзень-ліпень 2014 года яны чамусьці налічылі ў сельскай гаспадарцы 772 стратныя арганізацыі (без дзяржпадтрымкі), што склала 52,4% ад іх агульнай колькасці. Куды толькі глядзяць нашы шматлікія кантрольныя органы? Вось яно — шкодніцтва ў чыстым выглядзе.

Але вернемся да першай цытаты. Што гэтым разам выступіць у ролі субстанцыі, ацэненай даражэй за золата і золатавалютныя рэзервы? Гэта фермы, запоўненыя быдлам беларускай пароды. Яе (пароды) асноўная перавага будзе заключацца ва ўменні прыстасавацца да ўмоваў утрымання, якія гістарычна склаліся ў межах нашай сацыяльна-эканамічнай мадэлі.

Гэта прынцыповы момант. Толькі наіўны чалавек можа разлічваць на тое, што ідэалагічна чужыя нам еўрапейскія пароды жывёлы пагодзяцца на беларускіх фермах падтрымліваць галандскі ўзровень надояў і прыбаўлення ў вазе.

Але свет флоры бульбай не абмяжоўваецца, як не абмяжоўваецца буйной рагатай жывёлай свет фауны. Працягну цытаванне: *«Я это проэкспериментировал у себя на ферме. У меня десяток овечек. Мы их уже два раза стригли — огромное количество шерсти. Самые лучшие овцы в мире, и они прекрасно себя чувствуют. Сейчас сделаем это по всей стране»* (травень 2012 г.).

### Цікавае пачынанне, між іншым...

Час ад фактаў пераходзіць да абагульненняў. Утапічны тып свядомасці — важны элемент нашай культуры. На думку акадэміка Юрыя Піваварава, сярод родных асін прадстаўнікам палітычнай эліты і простага люду ў аднолькавай ступені ўласціва верыць у магчымасць немагчымага.

Утапічны тып свядомасці не ўчора нарадзіўся і не заўтра памрэ. У кожнага пакалення — свой акадэмік Лысенка. Як тут ні прыгадаць раман Фазіля Іскандэра «Сузор'е Казлатура». Рэкамендую прачытаць. Дарэчы, для тых, хто не ў курсе, у рамане апісаныя рэальныя падзеі.

Коратка перакажу змест. Шараговую нататку ў раённай газеце пра селекцыянера, якому ўдалося злучыць горнага тура са звычайнай казой (факт сам па сабе банальны), выпадкова прачытаў «адзін вялікі чалавек, хоць і не міністр, аднак ніяк не менш міністра па значэнні». Сваё здзіўленне ён перадаў фразай, якая паслужыла трыгерам наступных падзей: «Цікавае пачынанне, між іншым...»

Цікавае пачынанне падхапілі. На тое і існуе бюракратычная «вертыкаль», каб падхопліваць пачынанні начальства. Сумневаў у тым, што ўжо ў бліжэйшы час казлатуры зоймуць годнае месца ў народнай гаспадарцы, натуральна, ні ў каго не ўзнікла.

Спіс вартасцяў казлатура быў значны: «Па-першае, ён у сярэднім у два разы цяжэй за звычайную казу (вырашэнне мясной праблемы), па-другое, ён вылучаецца выключна моцнай канстытуцыяй, што робіць у будучыні выпас казлатураў на самых стромкіх горных схілах практычна бяспечным. У гэтым месцы, дарэчы, адзначалася, што дзякуючы мяккаму, спакойнаму характару жывёлы выпас казлатураў не ўяўляе вялікай працы, і адзін пастух можа справіцца з дзвюма тысячамі казлатураў». А галоўнае — гэта воўна. «Густая воўна белай і попельнай афарбоўкі — дадатковы падарунак нашай лёгкай прамысловасці».

Але актывісты цікавага пачынання, разважаючы пра галоўнае, не забывалі і пра дробязі. Казлатур захаваў «прыгажосць рагоў, якія пасля пэўнай апрацоўкі могуць стаць упрыгожваннем або выдатным сувенірам для турыстаў і прыхільна настроеных замежных гасцей». Г.зн. у казлатурагадоўлі праглядаўся і экспартны патэнцыял!

Чым усё гэта скончылася — нескладана здагадацца. Пачынанне, спушчанае зверху, загубіла камбінацыя суб'ектыўных і аб'ектыўных фактараў: «Некаторыя старшыні (калгасаў — С. Н.) спрабавалі ўцячы ад гэтай новай справы на той падставе, што яны і коз даўно не трымаюць, але іх прысарамацілі і прымусілі набыць адпаведную колькасць коз. Нарэшце козы былі набытыя, але потым сталі паступаць скаргі, што некаторыя казлатуры праяўляюць абыякавасць да коз».

Карацей, некаторыя старшыні, што ўступілі ў змову з некаторымі казлатурамі, і склалі ядро той масы, якая паставіла крыж на ініцыятыве «вялікага чалавека».

СССР распаўся, але вера ў магчымасць немагчымага жывая. Вера гэтая даражэй за золата, вось толькі шкада, што міжнародныя фінансавыя інстытуты адмаўляюцца ўключаць яе ў склад золатавалютных рэзерваў.




**СССР распаўся, але вера ў магчымасць немагчымага жывая. Вера гэта даражэй за золата, але міжнародныя фінансавыя інстытуты не ўключаюць яе ў золатавалютныя рэзервы**

### Утопія, агрэсія, улада

Вера ў магчымасць немагчымага здольная ўзнаўляцца толькі ва ўмовах максімальна спрошчаных уяўленняў пра навакольны свет. Спашлюся на ўласны вопыт.

Перабудова. Кожную раніцу я ў ліку першых займаю чаргу да найбліжэйшага кіёска «Саюздруку». У мяне няма сумненняў наконт таго, што адбываецца. Я сачу за барацьбой Гарбачова з Лігачовым. Першы ўвасабляе для мяне сілы Дабра і Святла (дэмакратыя, рынкавая эканоміка), другі — сілы Зла і Цемры (таталітарызм, планавая эканоміка).

Такім чынам, найскладанейшы сацыякультурны працэс з яго эканамічным, палітычным і іншымі складнікамі ў сілу сваёй «саўковасці» я рэдукую да амерыканскага вестэрна, у якім добры хлопец змагаецца з дрэнным. Натуральна, мае сімпатыі на баку добрага хлопца Гарбачова. У фінальным змаганні ён выходзіць пераможцам. Ура! Спраўдзілася мара...

У сваёй «саўковасці» я быў не адзінокі, што і пацвярджала наяўнасць чаргі да кіёска «Саюздруку». Практычна ўсе мае знаёмыя на пачатковым этапе Перабудовы былі на баку яе галоўнага архітэктара. Але па меры нарастання хаосу ў эканоміцы пазітыўнае ўспрыманне таго, што адбываецца, у многіх беларусаў даволі хутка змянілася на негатыўнае. Утапічны тып свядомасці ўзяўся за сваю звыклую працу. Ён перафарматаваў няспраўджаныя перабудовачныя мары ў нянавісць і агрэсію ў адносінах да дэмакратыі і дэмакратаў. Апошнія сталі ўспрымацца не інакш як *«дерьмократы»*.

Гісторыя здзейсніла свой звыклы зігзаг. Рэкамендую знайсці ў інтэрнэце кнігу гісторыка Уладзіміра Булдакова «Утопія, агрэсія, улада. Псіхасацыяльная дынаміка пострэвалюцыйнага часу. Расія, 1920–1930 гг.». Асноўную ідэю кнігі перадае наступная цытата: «Недарэчнасць мінулай і цяперашняй гістарыяграфічнай сітуацыі складаецца ў неразуменні таго, што на справе «савецкая ўлада» (называная то сацыялістычна-перадавой, то таталітарна-рэгрэсіўнай) вырастала менавіта на аснове спантанных рэакцый знізу. <...> Улада ў час «руйнавання» саслоўяў заўсёды адраджалася на аснове «голасу народу», энергетыка якога вызначалася інтэнсіўнасцю ўзаемадзеяння забабонаў і ўтопіі».

Сутыкненні масавых забабонаў з не менш масавымі ўтопіямі і вызначалі дынаміку падзей канца 80-х пачатку 90-х гадоў мінулага стагоддзя ў Беларусі. Што нарадзілася ў выніку? Адказ на гэтае пытанне змяшчаецца ў загалоўку кнігі Булдакова. Нарадзілася ўлада. Спантаннымі рэакцыямі знізу, паднятая з бруду ў 1994 г., яна ўзнаўляецца не без дапамогі народа на працягу ўжо двух дзясяткаў гадоў.

### Падданыя парадку не ствараюць

Генератар утопіяў працягвае выдаваць на-гара сваю прадукцыю. Пасля анексіі Крыма ён запрацаваў з падвоенай хуткасцю. Вось ужо трэцяе апытанне запар сацыёлагі НІСЭПД фіксуюць рост рэйтынгу адзінага палітыка (АП) на фоне запавolення тэмпаў росту даходаў насельніцтва. Такое ў XXI стагоддзі было адзначана толькі адзін раз у 2009 годзе — у час сусветнага фінансавага крызісу.

Толькі аўтаномная асоба, якая мае крыніцу парадку ўнутры сябе, здольная супрацьстаяць уздзеянню дзяржаўнай прапаганды. Але ў Беларусі аўтаномныя асобы складаюць меншасць. Што тычыцца чалавека традыцыйнай культуры, дык яго толькі ўмоўна можна лічыць суб'ектам. Ён бачыць суб'ект звонку — у духах, багах, у высокіх сацыяльных інстанцыях (начальніках). Такі тып чалавека не мае патрэбы ў свабодзе. Максімальна камфортна ён адчувае сябе ва ўмовах знешняй рэгламентацыі.

Любую спробу аслабіць дзяржаву чалавек традыцыйнай культуры ўспрымае як рух у кірунку хаосу. У чарговы раз працытую свайго любімага культуролага Ігара Якавенку: «Космас з'яўляецца эманацыяй Улады. Падданыя парадку, г.зн. космасу, не ствараюць. Падданыя, якія страцілі дабрадатную сувязь з Уладай, спараджаюць Хаос. Гэта як чалавек, які трапіў пад уладу Князя Цемры». Сучаснаму еўрапейскаму чалавеку такі ход думак невядомы. Ён самога сябе ўспрымае ў якасці галоўнай крыніцы парадку.

Літаральна на кожным кроку мы спатыкаемся аб прыклады ўтапічнай свядомасці. Як тут ні прыгадаць папулярнае сярод партыйнай апазіцыі сцверджанне, якое пачынаецца са словаў: «Калі на Плошчу выйдзе 200 тысяч чалавек...»


Зміцер ГАЛКО

# «Ну як у вас там, в Білорусі, зовсім погано?»

**«Пагана» — вельмі трапнае слова. Бо нібыта не так ужо і кепска ў нас, бывае значна горш, але «сапраўды пагана», — пасля таго, як я працытаваў словы аднаго байца ў фэйсбуку, напісала ў адказ Алена Мінская.**




## Пасіянарны Барысаў

Барысаў, напэўна, — адзін з самых пасіянарных гарадоў Беларусі. Нездарма менавіта адсюль найлепшы беларускі футбольны клуб. Сумную вядомасць набыла снайперка Наталля Красоўская, якая ваявала на баку сепаратыстаў. Днямі ж я сустрэў на данбаскім фронце яшчэ аднаго беларуса з Барысава, намесніка камандзіра добраахвотніцкага батальёна «Кіеў–2» з пазыўным «Град» і нашыўкай «Укроп» на рукаве.

Не магу прыгадаць, калі апошнім разам я быў рады сустрэчы з суайчыннікам за мяжой ці адмыслова шукаў яе. Занадта слабая паміж намі, беларусамі, сіла прыцягнення. Не ўяўляю, што агульнага ў мяне магло быць з той жа Наталляй Красоўскай, апроч пашпарта аднолькавага ўзору. З «Градам» у нас цяпер розныя пашпарты, ён з 2005 года жыве ў Кіеве, у яго пашпарт грамадзяніна Украіны, украінская сям'я. У Беларусі яму, кажа, ужо неяк нязвыкла і няўтульна. Мне ж прыемна было сустрэць пад Валнавахай земляка, вельмі падобнага да сябе чалавека: прысадзістага, з круглым тварам, шэрымі вачыма, русымі валасамі і павольнай, троху мядзведжай хадой.

Нельга адмовіць у пасіянарнасці Наталлі Красоўскай, толькі цяжка зразумець, што яна рабіла на Данбасе са зброяй у руках. У «Града» няма ейнай авантурнасці, ён цалкам пазбаўлены эпатажу. Калі зняць з ім інтэрв'ю на відэа, яно б не набрала шмат праглядаў на YouTube. Гаворыць ён спакойна, напаўголаса. Нічога «гарачанькага». Крутасцю сваёй не хваліцца, прывітанняў «Бацьку» не шле.

Зрэшты, кураж якраз і ўласцівы агрэсару, «джэнтльмену ўдачы» ці бандыту. Калі ж ты робіш такую простую і зразумелую справу, як абарона сваёй сям'і, табе няма чаго куражыцца.

## Матывацыя «Града»

Украінская сям'я падтрымлівае «Града» і ўдзячная яму. І для яго гэта самае галоўнае. Часам ён сутыкаецца з неразуменнем з боку мясцовых жыхароў на Данбасе. Чаго ты, маўляў, сюды прыйшоў, мы цябе не клікалі. Тады ён тлумачыць, што калі яны не маюць нічога супраць расійскай агрэсіі, іх правa, могуць расслабіцца і атрымліваць задавальненне. Але яна пагражае ўсёй Украіне, а значыць, і сям'і таксама, і не ім вырашаць, ці абараняць яму сваю сям'ю. Я ж кажу, нічога «гарачанькага», усё вельмі проста.

Бацькі «Града», якія застаюцца ў Беларусі, і многія беларускія сябры яго не разумелі. «Хунта», «карнікі», «укропы», «мірныя жыхары Данбасу», вядомы набор шараговага гледача расійскага тэлебачання.

Вы проста ўявіце, казаў ён ім, што на Берасцейшчыну зайшлі ўкраінскія войскі і нахабна гаспадараць там. Сусед прабіў адбойным малатком дзірку ў сцяне вашай кватэры, пачаў праз яе раз-пораз заходзіць, пагульваць, натоптваць, пакрыкваць, парадкі свае наводзіць. Які б ён там сваяком табе не быў, хай нават братам родным, якога хрэну? Нават родная маці не разумела «Града», пакуль не прыехала да яго ў госці і пэўны час там не правяла.

Што да прыхільнікаў ДНР, іхным увасабленнем для яго стаў затрыманы батальёнам «Кіеў–2» мужык, які ездзіў збіраць золата на месца падзення малазійскага «Боінга». З ювелірнымі вагамі, усё як мае быць. Ён з мерцвякоў здымаў залатыя ўпрыгажэнні. Бадай, такое жаданне хутка і на дурніцу нешта сабе ўрваць, не выбіраючы сродкаў, рухала большасцю тых, хто хацеў ужо заўтра атрымаць расійскія заробкі і пенсіі, таму пляскаў у ладкі ўсялякім «гіркіным» і «барадаям».

## Краіна мусіць змяніцца

**Савякі «Града» ў Беларусі і многія беларускія сябры яго не разумелі. «Хунта», «карнікі», «укропы» — вядомы набор шараговага гледача расійскага тэлебачання. Нават родная маці не разумела «Града», пакуль не прыехала ў госці і пэўны час не правяла на Украіне**

Украіну «Град» не любіць безаглядна — такой, якая яна ёсць, — інакш не выйшаў бы калісьці на Майдан з жаданнем кардынальна яе змяніць. Дарэчы, на Майдане ён, па ўласных словах, «камяні і кактэйлі не кідаў», займаўся выратаваннем параненых і дастаўкай медыкаментаў. Гэта цяпер вайсковая агрэсія супраць яго краіны прымусіла ўзяць у рукі зброю, згадаць вайсковы досвед. У Беларусі яму калісьці «свяціла кар'ера вайскоўца або камітэтчыка», цяпер жа ён не ўпэўнены, ці не арыштуюць яго на мяжы, калі ён да бацькоў паедзе.

«Я, калі ў Міхайлаўскі сквер заходзіў, паслізгваўся на крыві... Ёлы-палы, думаю, ну пасля такога ўжо краіна не можа застацца ранейшай, мусіць змяніцца. Але, бачыш, дзяржаўніцкі апарат у нас надта непаваротлівы аказаўся, з вялікай сілай інерцыі. Старую скуру скінуў, у новенькую апрануўся, а па-сутнасці тая ж змяюка... Разумееш, нам зараз некалькі месяцаў не спатрэбілася б, аднаго нашага батальёну хопіць, каб усю тую хеўру разагнаць. Адказнасць за краіну стрымлівае, бо мы разумеем, што будзе капец. Толькі хай яны ведаюць, што мы, у адрозненні ад іх, моцна змяніліся. І старую кашу доўга есці не будзем», — гэтак жа напаўголаса, як і ўсё астатняе, спакойна кажа «Град».

## «Кіеў–2»

За паўсотні кіламетраў ад нас ідзе жорсткі бой. Батальён «Кіеў–2» правярае машыны на дарозе паміж Данецкам і Марыупалем.

«Увогуле, мы антытэрарыстычнае падраздзяленне, тут у большасці байцоў багаты вайсковы досвед, але на гэтай вайне нармальная практыка забіваць цвікі мікраскопам. Нават вясной, яшчэ ў самым пачатку ўсёй гэтай вакханаліі, нам не давалі загадаў па нашым профілі. Знайсці і знішчыць Гіркіна, напрыклад», — кажа «Град».

Хтосьці жартуе па рацыі, што ў іх «чатырохсоты». Гэтак называюць п'яных пасажыраў, якія бузяць і не хочуць паказваць дакументы. Тым часам навічкоў будзённа вучаць страляць з РПГ. Тонкая навука правільна трымаць гэтую штуковіну, калі не хочаш сабе нічога падпаліць ці адстрэліць.

Я аціраюся сярод байцоў, з сім-тым часам размаўляем. Адзін з іх, даведаўшыся, што я беларус, агаломшвае мяне спачувальным пытаннем: «Ну як у вас там, у Білорусі, зовсім погано?» І я моўчкі думаю, што з такімі людзьмі Украіну не пераможаш.

«Пагана» вельмі трапнае слова. Бо нібыта не так ужо і кепска ў нас, бывае значна горш, але «сапраўды пагана», — пасля таго, як я працытаваў словы байца ў фэйсбуку, напісала ў адказ Алена Мінская.

Асабліва цяпер, калі самі ведаеце хто купаецца ў промнях славы «міратворца», з нахабнай усмешкай расказваючы Захаду, цяпер ужо ў якасці легітымнага прэзідэнта, што гэта яны справакавалі вайну ва Украіне, а ён гатовы яе спыніць.







## 19 КАСТРЫЧНІКА, НЯДЗЕЛЯ

### Беларусь 1







**07.05** Драма «Вар'яцкі юбілей» (Расія).
**09.00** Навіны.
**09.10** Арсенал.
**09.40** Камедыйны серыял «Сваты-6» (Украіна).
**10.50** «Пра ежу!» Кулінарны майстар-клас.
**11.25** Xxl woman tv. Жаночы часопіс.
**12.00** Навіны.
**12.10** Навіны. Цэнтральны рэгіён.
**12.35** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**13.05** Таямніцы следства.
**13.40** Каробка перадач.
**14.15** Каб усё так geely!
**14.50** Вялікае тэлебачанне.
**15.00** Навіны.
**15.15** Твой горад.
**15.30** Вакол планеты.
**16.20** Тэлефільм АТН цыклу «Вялікі рэпартаж».
**16.55** Я магу!
**17.15** Меладрама «Сонечнае зацьменне» (Расія). 1-я і 2-я серыі.
**21.00** Галоўны эфір.
**21.55** Навіны надвор'я.
**22.15** Вялікае тэлебачанне.
**22.25** Крымінальная меладрама «Раскажы мне пра мяне» (Расія).
**00.20** Камедыйны серыял «Сваты-6» (Украіна).

### ОНТ

**07.00** АНТ прадстаўляе. «Нядзельная раніца».
**08.00** Нашы навіны.
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь (з субтытрамі).
**09.20** «Смешарыкі. Пін-код».
**09.35** «Шалапутныя нататкі».
**09.55** «Пакуль усе дома».
**10.40** «Фазэнда».
**11.10** Шоу-гульня «ТБ-таксі».
**11.35** «Гісторыя расійскай кухні».
**12.10** «Брэйн-рынг».
**13.10** Міхаіл Казакоў.
**14.10** «Я люблю Беларусь».
**15.20** КВЗ. Вышэйшая ліга.
**17.50** «Тэатр эстрады».
**20.00** Контуры.
**21.05** «Ледніковы перыяд».
**23.45** Мастацкі фільм «Белыя ночы паштальёна Аляксея Трапіцына».

### СТВ

**06.00** «Фірмовая гісторыя». Серыял. Заключныя серыі.
**07.30** Тэлечасопіс «Аўтапанарама».
**08.00** Фільм «Фабіа Мантале. Міжвольны сведка» (Францыя 2001 г.).
**10.00** «Вялікі сняданак».
**10.40** «Тэрыторыя памылак».
**12.30** «Добры дзень, доктар».
**13.05** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**14.10** Фільм «Аднойчы схлусіўшы» (СССР, 1987 г.).
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** Канцэрт Міхаіла Задорнава.
**17.45** Тэлечасопіс «Аўтапанарама».
**18.15** СТВ прадстаўляе: вячэрні шоу «На тым жа месцы ў той жа час».
**19.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**20.40** Фільм «Мажестык» (ЗША - Аўстралія, 2001 г.).
**23.25** «Глядзець усім!».
**00.20** Фільм «Ноч» (Італія - Францыя, 1961 г.).

### Беларусь 2

**07.05** Вышэй за дах.
**07.35** Камедыя «Асаблівасці нацыянальнага палявання ў зімовы перыяд» (Расія).
**09.10** Прыгодніцкі мультсерыял «Клуб Вінкс. Школа чараўніц» (Італія).
**10.20** Мазгавы штурм.
**11.00** Тэлебарометр.
**11.05** Камедыйны серыял «Універ. Новы інтэрнат» (Расія).
**12.15** Я хачу гэта ўбачыць!
**12.50** Іранічны дэтэктыў «Разумнік» (Расія).
**14.50** «Перазагрузка». Маладзёжнае ток-шоў.
**15.35** Рамантычны трылер «Змярканне. Сага. Зацьменне» (ЗША).
**17.55** «Comedy Баттл. Без межаў». Забаўляльная шоу-праграма (Расія).
**19.15** Суперлато.
**20.05** Кіпень.
**20.25** Тэлебарометр.
**21.00** Спортлато 5 з 36.
**21.05** Кено.
**21.15** «На прыродзе».
**21.30** Камедыйны серыял «Універ. Новы інтэрнат» (Расія).
**22.40** Баявік «Падзенне» Чорнага ястраба «(ЗША - Вялікабрытанія).

### Беларусь 3

**08.00** «Калейдаскоп».
**08.20** Серыял. «Робін з Шэрвуда». 1-2 серыі.
**10.05** «Подых струн». Музычная праграма.
**10.45** «Наперад у мінулае».
**11.10** Хіт-парад. «Сто песень для Беларусі».
**12.05** «Калейдаскоп».
**12.15** «Навукаманія». Беларускія біягенетычныя тэхналогіі.
**12.50** «Стальныя зверы». Дакументальны фільм пра бранятанкавую тэхніку Германіі і СССР другой сусветнай вайны. 1-я і 2-я серыі.
**13.50** Канцэрт джазавага піяніста Вячаслава Ганеліна.
**15.20** «Калейдаскоп».
**15.40** «Старыя казкі». Гісторыя стварэння цыкла з чатырох фільмаў «Па сакрэту ўсяму свету».
**16.05** «Па сакрэту ўсяму свету». Мастацкі фільм. 1-я і 2-я серыі.
**18.05** «Культпрасвет».
**18.40** Сусветнае кіно. «Гусар на даху».
**20.45** Калыханка.
**21.00** Канцэрт «Прысвячэнне майстру». Беларускаму дзяржаўнаму ансамблю «Песняры» - 45!
**22.05** «Гучанне жыцця».
**22.05** «Гучанне жыцця». Дакументальны фільм пра жыццё і творчасць стваральніка і кіраўніка вакальна-інструментальнга ансамбля «Песняры» Уладзіміра Мулявіна.
**23.00** «Культпрасвет».
**23.35** «Калейдаскоп».

### Беларусь 5

**07.50** Футбол. Чэмпіянат Беларусі. «Гомель» - «Дынама» (Мінск).
**09.40** Хакей. КХЛ. «Нафтахімік» (Ніжнякамск) - «Дынама» (Мінск).
**11.30** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. Відэачасопіс.
**12.00** Тэніс. Турнір ВТА. Кубак Крамля. Фінал. Прамая трансляцыя.
**14.00** Футбол. Чэмпіянат Англіі. «Манчэстэр Сіці» - «Тотэнхэм».
**15.55** Гандбол. Ліга чэмпіёнаў. БГК ім. Мяшкова (Беларусь) - ПСЖ (Францыя). Прамая трансляцыя.
**17.35** Хакей. Чэмпіянат Беларусі. «Нёман» (Гродна) - «Шахцёр» (Салігорск). Прамая трансляцыя.
**19.35** Баскетбол. Адзіная ліга ВТБ.
**21.15** Футбол. Чэмпіянат Англіі. КПР - «Ліверпуль».
**23.15** Футбол. Чэмпіянат Англіі. «Сток Сіці» - «Суёнсі».

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Аб'ектыў.
**07.10** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**07.45** «Між намі, буслямі», анімацыйны серыял для дзяцей.
**08.10** Фітнес-шмітнес.
**08.30** Маю права (юрыдычная праграма).
**08.55** Два на два (тэледыскусія): Ганна Канюс і Сяргей Трафімчык.
**09.25** Над Нёмнам (тэлечасопіс).
**09.40** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**10.10** Зона «Свабоды».
**10.40** «Між намі, буслямі», анімацыйны серыял для дзяцей.
**11.05** «Mad Men. Утрапёныя-2», серыял.
**11.55** «Час гонару», серыял.
**12.45** «Я люблю дэмакратыю. Туніс», дак. фільм, 2012 г., Францыя.
**13.45** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд).
**14.15** Моўнік (лінгвістычная праграма): Дзяржаў ці дзяржаваў, моў ці моваў?
**14.30** Чорным па белым (культурніцкая праграма).
**14.55** Два на два (тэледыскусія): Ганна Канюс і Сяргей Трафімчык.
**15.25** «Схаваныя злачынствы», маст. фільм, 2009 г., Канада.
**16.50** Форум (ток-шоу): Пакаленне «Бо-Бо».
**17.40** Зона «Свабоды» (аналітычная праграма).
**18.15** «Ранча», серыял.
**19.00** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**19.25** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): «Наша Доля» і «Наша Ніва».
**19.40** Эксперт (сатырычная праграма).
**20.05** Дакументальная гадзіна: «Жанчыны Гітлера», дак. фільм, 2011 г., Францыя.
**21.00** Фільматэка майстроў: «Папросту разам», драма, 2007 г., Францыя.
**22.40** «Фальшываманетнікі. Вяртанне «Зграі», серыял.
**23.25** «Сейбіт», дак. фільм, 2014 г., Польшча.

## Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы час» немагчыма купіць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы час», і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, афарміўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакументу на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). **Нашы рэквізіты: рахунак 301274 1108019 у аддзяленні №53 9 ОАО «Белінвестбанка», код банка 153 10073 9. Адрас банка: 22 0004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 22 0113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234.**

**Акрамя таго падпісацца можна ў рэдакцыі і ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў:**
**Магілёў:** (8 029) 930 79 22, Міхась
**Мінск:** (8 029) 178 31 68, Вольга
**Слуцк:** (8 029) 364 42 60, Зінаіда
**Гомель** (8 029) 697 82 75, Аляксандр

БЕЛПОЧТА

ф. ПС 112

**ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД**

№ ______ (вход, по карте отправки)

ВЫРУЧКА ☐ НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ ☐

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ___ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ ______
почтовый код, адрес отправителя, телефон)

АДРЕС ______

Доставка ☐ уведомление ☐ простое ☐ заказное ☐ электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 ______
Время приема ______ ч. ______ мин.
Подпись

## Паважаныя чытачы!

Падпісны кошт аднаго нумара газеты 3000 руб., аднаго месяца — 12000 руб.
**ДЗЯКУЙ ВАМ ЗА ПАДТРЫМКУ!**
«Новы час» запрашае да супрацоўніцтва распаўсюджвальнікаў газеты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.
**Даведка па тэл: (8 029) 651-21-12.**



КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

Счет получателя: 3012741108019 Лицевой счет: Код 739
УНП*: 190790926

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|
| Период подписки указывает абонент | | | | |
| | | | | |

Кассир

Плательщик

Пеня ______
Всего ______

# Вярніце ядзерную зброю

Алег НОВІКАЎ

**Ва Украіне ўсё часцей кажуць пра неабходнасць адмовы ад без'ядзернага статусу. Наколькі вялікія шансы ў Кіева папоўніць свой арсенал ядзернай зброяй?**

Спадчына прэзідэнта Леаніда Краўчука заўсёды ўспрымалася ўкраінцамі не вельмі адназначна. За што менш за ўсё крытыкавалі першага ўкраінскага гаранта, дык гэта за Будапешцкі мемарандум. Хіба толькі маленькая купка радыкальных нацыяналістаў не давала праходу Леаніду Макаравічу за тое, што аддаў ядзерную зброю ў абмен на гарантыю ўкраінскага суверэнітэту і цэласнасці з боку Масквы, Лондана і Вашынгтона.

Доўгі час гэты дакумент лічыўся адным з дасягненняў маладой украінскай дыпламатыі. Пакуль увесну ў Крыме не з'явіліся «зялёныя чалавечкі». У той жа момант усім стала зразумела, што Будапешцкі мемарандум — гэта паперка, з якой можна хіба што схадзіць у вядомае месца. Ні Лондан, ні Вашынгтон наўпрост ваяваць за тэрытарыяльнае адзінства Украіны не збіраюцца.

Нядзіўна, што ў такой сітуацыі ідэя вяртання ў краіну ядзернай зброі перастала быць прадметам маргінальнай палітычнай дыскусіі. Цяпер сімпатызантаў ядзернай вайсковай праграмы можна сустрэць не толькі на мітынгах радыкалаў. Палітычнае поле з-за вайны так моцна рушыла ў правы бок, што за ядзерную зброю выступаюць чыноўнікі самага высокага рангу, уключаючы міністра абароны.

Лічыцца, што наяўнасць ядзернай зброі дапаможа вельмі хутка паставіць Расію на месца. «Адновім ядзерны статус — і з Расіяй будзем зусім па-іншаму мець зносіны. Украіна валодае ўсімі неабходнымі тэхналогіямі для аднаўлення ядзернай зброі — на гэтыя мэты патрэбна 3–6 месяцаў», — кажа адзін з дэпутатаў ад аб'яднання «Свабода».

Аднак 3–6 месяцаў — гэта, аказваецца, вельмі доўгі тэрмін. Кіеўскі канал ТНТ сцвярджае, што ва Украіне ўжо ёсць ядзерная зброя. Трэба проста добра пакапацца на складах. «Падчас разбраення з Украіны павінна было быць выведзена 1272 ядзерных боегаловак. Адна з іх знікла. Таемна перапрадаць яе іншым дзяржавам было немагчыма, паколькі гаворка ідзе пра ядзерны боепрыпас у 550 кілатон. Для параўнання, у бомбе, скінутай на Хірасіму, было ўсяго 12», — піша сайт ТНТ. І гэта не ўсё. Калі верыць супрацоўнікам каналу: «Акрамя таго, на тэрыторыі дзяржавы згубіліся два цяжкіх стратэгічных ядзерных бамбавіка. Ядзерныя ракеты УР–100Н УТТХ афіцыйна былі ліквідаваныя, а праз гады аказалася, што ў засеках краіны іх яшчэ недзе 31 адзінка».

Тэма хуткага ўзбраення Украіны знайшла сабе кліенцкую базу. На патрыятычных сайтах ужо падлічваюць наступствы атамнай бамбардзіроўкі Масквы. «Тэарэтычна, ядзернага арсеналу, які выпадкова згубіўся ва Украіне, магло б хапіць на дзясятак прэвентыўных удараў, якія б супакоілі нораў агрэсара», — разважае адзін з блогераў.

Нягледзячы на тое, што паведамленні нагадваюць фантастыку, украінская ядзерная пагроза ўспрымаецца ў Маскве вельмі сур'ёзна. Польская прэса цытуе прадстаўніка камісіі абароны ў Расійскай дзярждуме, які заклікае вельмі ўважліва паставіцца да заявы таго ж міністра абароны Украіны.



**Аднавіць вытворчы цыкл здабычы ўрану можна за 2–3 гады з выдаткамі ў 300–500 мільёнаў долараў штогод. Стварэнне ж «бруднай бомбы» абыдзецца танней — у 1 мільён долараў і зойме 1,5–2 месяцы, аднак гэта дакладна перапужае ўвесь свет**

Расійскія вучоныя кажуць, што аднавіць ва Украіне ядзерны праект сапраўды рэальна. Размешчанае ў Днепрапятроўску КБ «Южное» было адным з важных элементаў савецкай ракетнай праграмы. Уранавая рэсурсная база ёсць на Жоўтых Водах. Там жа ўжо з 1950-х гадоў існуюць прадпрыемствы па першаснай перапрацоўцы ўранавай руды. У выпадку прыняцця палітычнага рашэння аб стварэнні ўкраінскай ядзернай зброі, прамысловы комплекс досыць хутка можа быць накіраваны на ўзбагачэнне ўрану да зброевага ўзроўню. Як кажуць спецыялісты, на такой базе можна зрабіць так званую «брудную бомбу». Дарэчы, гарадскі сайт гораду Славуціч (цэнтр украінскіх атамшчыкаў) ужо парадаваў чуткамі пра тое, што менавіта пад Чарнобылем будзе размешчаны навуковы цэнтр па стварэнні ўкраінскай атамнай бомбы.

Адзіная тэхналагічная замінка, магчыма, будзе звязаная непасрэдна з вырабам саміх бомбаў: гэта асобны і вельмі складаны працэс. Вытворчымі пляцоўкамі закрытага тыпу Украіна не валодала нават у часы СССР. Зборка «пад ключ» праходзіла на тэрыторыі Расіі, і развагі аб магчымасці аднаўлення такой вытворчасці на тэрыторыі сучаснай Украіны — чыстая тэорыя.

Акрамя таго, у ўкраінскага атамнага праекта ёсць як мінімум яшчэ два слабых месцы. Натуральна, узнікае праблема грошай. Варта сказаць, што Леанід Краўчук у свой час адмовіўся ад ядзернай зброі пасля таго, як пабачыў разлікі — колькі будзе каштаваць утрыманне атамнага комплексу. Па ўкраінскіх ацэнках, аднавіць вытворчы цыкл здабычы ўрану магчыма за два-тры гады са штогадовымі выдаткамі ад 300 да 500 мільёнаў долараў. Сума вельмі салідная для краіны, дзе ВУП за паўгады прасеў амаль на 10 працэнтаў і якой вядучыя агенцтвы паставілі дыягназ «стан перад дэфолтам». Стварэнне «бруднай бомбы» абыдзецца значна танней — усяго ў адзін мільён долараў, і зойме 1,5–2 месяцы часу, аднак гэта дакладна перапужае ўвесь цывілізаваны свет.

Стаўленне цывілізаванага свету да ўкраінскай бомбы — гэта другая праблема. Пасля таго, як ва ўкраінскім парламенце быў зарэгістраваны законапраект пра выхад Украіны з Дамовы пра нераспаўсюджанне ядзернай зброі (яго аўтарамі выступілі дэпутаты ад партый «Батьківщина» і «УДАР»), генеральны сакратар ААН Пан Гі Мун негатыўна адрэагаваў на гэтую навіну.

***Дэбаты вакол украінскай вайсковай ядзернай праграмы спецыяльна для НЧ пракаментаваў кіеўскі палітолаг Алесь Шаўчэнка:***

— Пакуль у тое, што Украіна насамрэч збіраецца стварыць ядзерную зброю, верыцца слаба. У бюджэце дзірка. Велізарная дзірка. Спытайцеся ў гугла, колькі рэсурсаў жарэ ядзерная праграма нават хоць бы Пакістану. Па-другое, хто ў свеце дапусціць стварэнне ядзернай дзяржавы ў няўстойлівым рэгіёне? Асабліва калі ёсць рычагі, каб гэтага не дапусціць? Уявіце: ядзерная зброя трапляе ў рукі неадэквата... Ці кагосьці, хто за грошы гатовы стаць наваросам...

Да таго ж яшчэ з вясны на ўсіх украінскіх АЭС прысутнічае каманда еўрапейскіх экспертаў па праблемах бяспекі. Калі будзе зроблены хоць адзін рэальны крок у гэты бок, тады можна чакаць серыі загадкавых забойстваў лабістаў бомбы, што пасля спішуць на Пуціна. Таму атамная бомба — гэта пакуль хутчэй кампенсацыйны прыём для тых, хто вельмі моцна перажывае за страту Крыму, ну і, натуральна, палітычны піяр.

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Пакуль найбольш смелыя і адчайныя інвестары ідуць на стварэнне ўласных прадпрыемстваў у Беларусі, абмяркоўваючы індывідуальна з уладамі ўмовы працы і разлічваючы на рынак Мытнага саюза. Эканамічныя эксперты ў Мінску лічаць, што спад расійскай эканомікі, зніжэнне попыту на гэтым прывабным рынку можа аслабіць цікавасць інвестараў, у тым ліку амерыканскіх, і да Беларусі. Беларускі ўрад завабліваe інвестараў стабільнасцю, падкрэсліваючы, што ў краіне не вядуцца ваенныя дзеянні, невысокі ўзровень крыміналу, умоўная апазіцыйная актыўнасць. Аднак для паспяховай рэалізацыі інвестыцыйных праектаў патрэбна і макраэканамічная стабільнасць, якой у Беларусі няма.

**«Независимая Газета» (Расія)**

У адносінах Польшчы і Беларусі на фоне расійскага харчовага эмбарга наступіла глабальнае пацяпленне. У жніўні з візітам у Мінск прыбыў міністр сельскай гаспадаркі і развіцця сельскай мясцовасці Марэк Савіцкі. На самым высокім узроўні абмяркоўваліся перспектывы супрацоўніцтва, магчымасць стварэння сумесных перапрацоўчых сельскагаспадарчых прадпрыемстваў... Чым выклікана такая цікавасць і хуткая адліга ў адносінах дзвюх краін — нескладана здагадацца. Да ўвядзення санкцый Расія для Польшчы была галоўным рынкам збыту сваёй сельгаспрадукцыі. Польшча бачыць у Беларусі выратавальны круг. Польшча страціла вялікі рынак збыту і лагічна знайшла выхад з сітуацыі — разгледзела магчымасць правозу прадукцыі праз Беларусь.

**«Совершенно секретно» (Расія)**

У бліжэйшай перспектыве беларускія ўлады будуць спрабаваць захоўваць дружалюбныя адносіны з Расіяй і спрабаваць нармалізаваць іх з Еўрасаюзам. Пры гэтым рэальных інтэграцыйных працэсаў з Масквой і Брусэлем Мінск будзе старацца пазбегнуць. Такі найбольш верагодны сцэнар развіцця беларускай знешняй палітыкі. Ва ўсякім выпадку, большасць палітолагаў, якія вывучаюць палітычныя працэсы ў Беларусі і Усходняй Еўропе, прытрымліваюцца менавіта такога пункту гледжання.

**«Deutsche Welle» (Германія)**

Утаго ж Лукашэнкі заўсёды ёсць у рукаве казырнай туз — калі Расія перастане яго ўспрымаць, то ён можа тут жа ўзяць курс на Еўропу, куды яго з радасцю пусцяць. У Казахстана такога козыра няма, побач з намі — Кітай і Расія, таму мы можам выбіраць толькі паміж імі ці спрабаваць трымацца дзесьці пасярэдзіне.

**«Республика» (Казахстан)**

Першапачаткова з трох удзельнікаў Мытнага саюза менавіта Беларусь была самым прагматычным (хоць і самым бедным) гульцом. Пакуль Расія лунала ў фантазіях наконт новага геапалітычнага праекту, якім яна разглядала МС, а Казахстан купаўся ў промнях славы «галоўнага інтэгратара» на постсавецкай прасторы, Мінск спрабаваў выціснуць з Мытнага саюза максімум карысці для сябе, умела гуляючы на кан'юнктуры. І вось гісторыя паўтараецца. У той самы момант, калі Расія ўжо ратыфікавала дамову аб стварэнні ЕАЭС, а Казахстан да гэтага рухаецца (нягледзячы на крытыку ўнутры краіны), у Мінску зноў вырашылі пагуляць на фактары цэйтноту і выгандляваць у Масквы дадатковае зніжэнне пошліны ад экспарту нафтапрадуктаў, якія Беларусь пералічвае Расіі. Як адзначаюць расійскія эксперты, ён (Лукашэнка) добра разумее, наколькі для Расіі ўзрасло значэнне інтэграцыі на постсавецкай прасторы, асабліва пасля санкцыяў.

**«Forbes» (Казахстан)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ТУРЦЫЯ. Эрдаган супраць заўзятараў

Турэцкім заўзятарам футболу дарога каштаваў удзел у акцыях пратэсту супраць палітыкі тады яшчэ прэм'ера Эрдагана. За адзін год улады прынялі шэраг драконаўскіх законаў, якія ўступілі ў сілу з пачаткам цяперашняга парламенцкага сезону. Так, урад краіны распрацаваў спецыяльную сістэму продажу квіткоў, якая дазваляе выключыць ананімнасць гледачоў. З гэтага часу футбольны фанат зможа купіць білет толькі па электроннай сістэме, кожны раз праходзячы строгую папярэднюю праверку. Квіткі не падлягаюць перадачы трэцяй асобе. Кожнае месца на стадыёне звязана з унікальным ідэнтыфікацыйным нумарам. Гэта ўжо адлюстравалася на колькасці гледачоў. На матчы ў сталіцы збіраецца каля пяці тысяч заўзятараў, хаця ў мінулым сезоне, калі электронная сістэма продажу квіткоў яшчэ не дзейнічала, на тыя ж гульні збралася пяцьдзясят тысяч гледачоў. Аднак самае вясёлае яшчэ наперадзе. На днях супраць лідараў «Чаршы» — вядомай групы фанатаў клуба «Бешыкташ», было высунута абвінавачванне ў спробе звяржэння ўлады. Лідарам гэтай групы, якіх абвінавацілі ў падбухторванні да вулічных пратэстаў супраць урада, пагражае пажыццёвае зняволенне. Гэта першае ў гісторыі Турцыі абвінавачванне футбольных заўзятараў у спробе звяржэння ўлады.

**Паводле турэцкай прэсы**

### ВЯЛІКАБРЫТАНІЯ. Вікінгі патрабуюць незалежнасці

Нягледзячы на тое, што большасць шатландцаў прагаласавала за тое, каб іх край застаўся ў складзе Вялікабрытаніі, спакою ў краіне няма. Цяпер чарга бунтаваць перайшла да англічан. Практычна адначасова шэраг партый выступілі за ператварэнне Англіі ў асобны суб'ект Аб'яднанага каралеўства. Нават кансерватары — галоўныя апаненты шатландскіх нацыяналістаў — заклікаюць да таго, каб забараніць дэпутатам ад Шатландыі, Паўночнай Ірландыі і Уэльсу галасаваць у парламенце па пытаннях, якія тычацца Англіі. Далей за ўсё пайшла партыя «Левае адзінства», лідарам якой з'яўляецца вядомы рэжысёр Кен Лоўч. Рэжысёр і яго паплечнікі патрабуюць стварэння Англійскай рэспублікі. Аднак рэкардсменам у неафіцыйным парадзе англійскіх незалежнікаў, безумоўна, стала група з Паўночнай Англіі пад кіраўніцтвам аднаго з кансерватыўных парламентарыяў. Група выступае за рэстаўрацыю каралеўства вікінгаў, якое існавала на Поўначы Англіі ў IX стагоддзі і называлася Паўночнае каралеўства. У знак сур'ёзнасці намераў прыхільнікі вікінгаў заснавалі партыю «Паўночная справа».

**Паводле брытанскай прэсы**

### КІТАЙ. За салідарнасць з Ганконгам — у турму




Пратэсты ў Ганконгу з патрабаваннем прамых выбараў мясцовай адміністрацыі, карыстаюцца падтрымкай шматлікіх кітайцаў. Каб выказаць сваю пазіцыю, яны выкарыстоўваюць інтэрнэт, куды выкладаюць свае выявы на фоне лозунгаў пратэстуючых або сцяга Кітайскай рэспублікі, якая існавала да перамогі камуністаў. Некаторым гэта акцыя каштавала вельмі дорага. Як піша французская прэса, маюць месца выпадкі, калі спецслужбы арыштоўваюць блогераў-апазіцыянераў. У прыватнасці, арыштаваная ўся сям'я аднаго пекінскага актора, які выказаў у сеціве салідарнасць з пратэстамі ў Ганконгу. Усяго, па падліках праваабаронцаў, па ўсёй краіне за гэта арыштавана каля 20 чалавек. Яшчэ 60 асобаў знаходзіцца ў вышуку. Застаецца сказаць, што кантраляваць віртуальныя пратэсты кітайскім сілавікам дапамагае тое, што ў Кітаі забаронены Twitter. A Weibo — кітайскі аналаг забароненага Twitter — знаходзіцца пад татальным кантролем спецслужбаў.

**Паводле французскай прэсы**

### ПОЛЬШЧА. Мара пра ўнію з Германіяй

Былы польскі прэзідэнт, лаўрэат Нобелеўскай прэміі Лех Валенса кажа, што польска-немецкая ўнія можа быць альтэрнатывай Еўрасаюзу і нават ААН. І ЕС, і ААН, як лічыць Валенса, з'яўляюцца рэшткамі старога кепска арганізаванага свету, у адрозненне ад будучага саюзу Германіі і Польшчы. Валенса не растлумачыў дэталі свайго праекту, аднак гэтых нешматлікіх слоў хапіла, каб польская аўдыторыя яго раскрытыкавала. Справа не толькі ў тым, што ў Польшчы жывая памяць пра Другую сусветную вайну, калі быў забіты кожны пяты паляк. Папулярная думка, што Валенса хоча за кошт экзатычных заяў выклікаць інтарэс да сябе напярэдадні выбарчай парламенцкай кампаніі.

**Паводле польскай прэсы**

# Рэабілітаваць ГДР

*Алег НОВІКАЎ*

**У ФРГ былыя камуністы спрабуюць навязаць грамадству новы погляд на рэжым, што існаваў у Германскай Дэмакратычнай Рэспубліцы (ГДР).**



Калі 3 кастрычніка, у пятніцу, Германія святкавала 21-ю гадавіну аб'яднання, фраза: «ГДР была неправавой дзяржавай (Unrechtsstaat)», неадназразова злятала з вуснаў прадстаўнікоў афіцыёзу. Аднак на гэты раз, фактычна ўпершыню з часоў падзення берлінскай сцяны, гэты канцэпт паспрабавалі аспрэчыць. Выклік кінулі лідары партыі «Левыя», якая фрагментарна ўзнікла на базе былой камуністычнай партыі Усходняй Германіі. Грэгар Гізі, кіраўнік фракцыі «Левых» у Бундэстагу, лічыць, што тэрмін Unrechtsstaat у дачыненні да ГДР ужываць некарэктна.

Гізі — адзін з лепшых юрыстаў у краіне — спасылаецца пры гэтым на шмат юрыдычных момантаў. Напрыклад, на тэкст дамовы аб уваходзе ГДР у склад Заходняй Германіі. Аналіз тэксту дазваляе казаць, што правая сістэма ГДР прызнавалася Бонам цалкам легальнай. Не дарма абсалютная большасць судовых вердыктаў, якія зрабіла ўсходняя нямецкая Феміда, не збіраюцца пераглядаць. Выключэнне было зроблена толькі для ахвяраў палітычных працэсаў, якія складалі адносна малы адсотак у масіве судовых спраў.

Гізі казаў нешта падобнае і раней, аднак на гэты раз яго словы выклікалі сапраўдны палітычны землятрус. Гэта звязанае з тым, што ў зямлі Цюрынгія (былая частка ГДР) упершыню за 20 гадоў да ўлады можа прыйсці левы ўрад, дзе галоўную ролю адыгрываюць былыя камуністы. 24 верасня патэнцыйныя сябры будучай кааліцыі — «Левыя», эсдэкі і «Зялёныя», прынялі сумесную так званую Цюрынгскую дэкларацыю аб стаўленні да спадчыны ГДР. Аўтары дэкларацыі прызнаюць, што ва Усходняй Германіі ў 1945–1989 гадах панавала дыктатура, аднак лічаць неабходным перагледзець існуючыя клішэ на гісторыю Усходняй Германіі.

На думку падпісантаў, жыццё ў ГДР было больш стракатым, чым прадстаўлена ў цяперашніх падручніках гісторыі, спецслужбы наўпрост не кантралявалі быт, а сама формула лаяльнасці ўсходніх немцаў да дзяржаўнага ладу не была заснаваная выключна на фактары тэрору з боку дзяржавы. Далей больш — у выпадку фармавання новага ўраду плануецца арганізаваць у Цюрынгіі нешта накшталт цэнтру альтэрнатыўнага вывучэння гісторыі ГДР.

Тэкст Цюрынгскай дэкларацыі паставіў на вушы ўвесь нямецкі палітыкум. Так, на думку кіраўніцтва ўрадавай партыі хрысціянскіх дэмакратаў (CDU), назіраецца спроба

**Сябры ўрадавай партыі хрысціянскіх дэмакратаў падзяляюць версію пра тое, што «Левыя» рыхтуюць адпаведную маральную грамадскую атмасферу для зрыву святкавання 25-гадовага юбілею падзення берлінскай сцяны ў наступным годзе**

Некаторыя сябры CDU падзяляюць версію пра тое, што «Левыя» рыхтуюць адпаведную маральную грамадскую атмасферу для зрыву 25-гадовага юбілею падзення берлінскай сцяны ў наступным годзе рэвізіі звыклага погляду на сучасную гісторыю Германіі, якая трактавала ГДР як звычайную таталітарную дзяржаву. Калі лагічна развіць тэзіс экс-камуністаў пра тое, што ГДР не была дыктатурай, аб'яднанне Германіі можна лічыць адным з варыянтаў банальнай анексіі.

Таму лідары правацэнтрыстаў мабілізаваліся супраць новых гістарычных канцэпцый. Як заявіў адзін з лідараў партыі «Хрысціянска-сацыяльны саюз» Андрэас Шойер: «Дзяржава, якая не абараняе правы сваіх грамадзян і не мае інстытуту незалежнага суду, не можа называцца справядлівай. Не вытрымлівае ніякай крытыкі і аргумент Гізі наконт таго, што ГДР была не падобная на Трэці рэйх. Гэта не значыць, што ГДР была праваой дзяржавай». Некаторыя сябры CDU падзяляюць версію пра тое, што «Левыя» рыхтуюць адпаведную маральную грамадскую атмасферу для зрыву 25-гадовага юбілею падзення берлінскай сцяны ў наступным годзе.

Ёсць і палярная кропка гледжання. Напрыклад, некаторыя палітолагі лічаць, што ўвесь сыр-бор вакол ацэнак прававой прыроды ГДР цалкам штучны. Па сутнасці, тое, што адбываецца ў Цюрынгіі, гэта — крах старога табу, паводле якога дэмакратычныя партыі павінны ўстрымлівацца ад блокаў з экс-камуністамі. За кошт таго, што эсдэкі і зялёныя цураліся «Левых» і не маглі стварыць сумесныя ўрады, хрысціянскія дэмакраты доўгі час панавалі на ўсходзе Германіі. Першымі догму парушылі эсдэкі, калі ў 2002 годзе запрасілі экс-камуністаў разам кіраваць Берлінам. Сёння мы назіраем рымэйк кампаніі 2002 года з той розніцай, што цяпер догму наконт супрацоўніцтва з «Левымі» ламаюць «Зялёныя».

Наступствы стварэння левага ўраду ў Цюрынгіі могуць мець катастрафічныя наступствы для партыі Ангелы Меркель. Падобная кааліцыя магла паўстаць, напрыклад, у цяперашнім парламенце або па выніках наступных выбараў.

Такая пастаноўка пытання сапраўды вартая ўвагі. Аднак дзеля праўды трэба прызнаць, што ацэнкі спадчыны ГДР у тэкстах папярэдніх урадавых кааліцый з удзелам «Левых» былі іншымі. Напрыклад, у 2002 годзе ў праграме берлінскага ўраду эсдэкаў і «Левых» адказнасць за будаўніцтва берлінскай сцяны, трагедыю берлінцаў ускладалася на адміністрацыю ГДР і яе маскоўскіх патронаў. У 2009-м, калі кааліцыю ў Берліне абнавілі, у прэамбулу ўрадавай дамовы ўключылі наступны фрагмент: «Выключна грамадзянскія пратэсты ў ГДР увосень 1989 года дазволілі аднавіць у ГДР плюралізм і дапамаглі камуністам дэмакратызаваць сваю партыю». Іншымі словамі, тады замахаў на стары канцэпт разумення прыроды ГДР экс-камуністы не рабілі.

Напэўна, важна пачуць у гэтай дыскусіі і голас нямецкіх гісторыкаў. Тут ёсць, безумоўна, розныя пазіцыі, аднак большасць пагаджаецца з тым, што фармулёўка: «ГДР — неправавая дзяржава», можа ўжывацца для характарыстыкі дзяржаўнага ладу, які існаваў у ГДР. Лепшым аргументам на карысць гэтага ёсць дзявяты параграф канстытуцыі былой сацыялістычнай дзяржавы, які кажа пра адказнасць грамадзян за крытыку ўрада краіны.

З іншага боку, выраз: «ГДР — неправавая дзяржава» мае вельмі палітызаваны і агрэсіўны падтэксты, што ўспрымаецца былымі грамадзянамі ГДР або іх нашчадкамі як атака на іх ідэнтычнасць. У выніку тыражаванне гэтага выразу хутчэй спрыяе працягу ментальнага падзелу Германіі. Паводле дадзеных, якія прыводзіць часопіс «Focus», на ўсходзе толькі каля 40 працэнтаў лічаць, што рэжым у ГДР быў Unrechtsstaat, у той час як на захадзе краіны такой думкі трымаюцца каля 70 працэнтаў.

Напэўна, можа пагадзіцца з гісторыка Эверхардам Холтманам, які піша, што «мадэль дыктатуры ГДР не ёсць у чыстым выглядзе контрмадэллю праваой дзяржавы».

Між тым, пасля апісаных скандалаў секцыя сацыял-дэмакратаў у Цюрынгіі ўжо задумалася: ці варта ёй пагаджацца на кааліцыю з «Левымі».

# Чаму прайграў рускі свет?

**Нягледзячы на эйфарыю, выкліканую анексіяй Крыму, руская дыяспара Латвіі не прагаласавала на выбарах 4 кастрычніка за прарасійскую партыю.**




Такім чынам, паводле афіцыйных дадзеных Цэнтрвыбаркама, партыя «Рускі саюз Латвіі» (РСЛ) не змагла пераадолець неабходны для праходжання ў парламент пяціпрацэнтны бар'ер, у агульнай колькасці набраўшы 14 344 галасы, або 1,58%. Магчыма, гэты правал лідарам РСЛ неяк можа кампенсаваць той факт, што ў латвійскіх турмах за «Рускі саюз Латвіі» прагаласавала 12,3% мясцовай публікі.

Навіна пра правал РСЛ цягне на сенсацыю як мінімум па прычыне таго, што выбары адбываліся на фоне відавочнай актывізацыі рускамоўных дыяспар у краінах СНД і Балтыі, выкліканай вясновымі падзеямі ў Крыме. У дадатак у Латвіі правы рускамоўных — гэта старая балячка з-за наяўнасці катэгорыі т. зв. «неграмадзян». «Неграмадзянамі» сталі першапачаткова ўсе жыхары Латвіі, якія не з'яўляюцца нашчадкамі грамадзян, што пражывалі на яе тэрыторыі да 1940 года. Сёння гэты статус маюць больш за 300 тысяч чалавек. Усяго ў краіне каля 25 працэнтаў насельніцтва — нашчадкі перасяленцаў савецкіх часоў.

Усе апытанні паказвалі, што латышскія рускія з вялікай сімпатыяй ставяцца да аперацыі «крымнаш». Толькі 8 працэнтаў гэтай камуны асудзілі Пуціна за яго крымскую авантуру. Гэтыя настроі выяўляліся ў электаральных паказчыках. Увесну на палітычную сцэну вярнулася радыкальная прарускfree партыя. Гаворка пра той самы РСЛ, які раней двойчы запар не праходзіў на выбарах у Сейм. На выбарах у Еўрапарламент 25 мая партыя Тацццяны Жданок і Міраслава Мітрафанава атрымала адно з васьмі дэпутацкіх месцаў па латвійскай квоце. Аднак, як мы бачым, ужо ўвосень інтарэс рускамоўных выбаршчыкаў да праграмы і лозунгаў РСЛ зноў знік. Што здарылася?

Латышскімі палітыкамі і палітолагамі прапануецца самы шырокі спектр версій адказу. Некаторыя лідары РСЛ, безумоўна, спісваюць усё на нейкія тэхнічныя недапрацоўкі і каверзы канкурэнтаў. Перш за ўсё, гэта байкот з боку найбуйнейшага рускамоўнага СМІ ў краіне — Першага балтыйскага канала, які ходзіць пад латышскім мэрам Нілам Ушаковым з яго памяркоўна-рэфармісцкай партыяй «Згода», што таксама арыентуецца на рускамоўных.

Не маючы медыйнага рэсурсу, РСЛ звярнуўся па дапамогу да іншых СМІ, што, быццам, стала актам суіцыду. «Яны (лідары Рускага свету) сталі ахвярамі падману піяр-менеджараў, якія выкарыстоўвалі фіктыўныя даследаванні медыярынку. Можна з поўнай упэўненасцю сказаць: гэта непрафесіяналізм менеджараў піяр-кампаній, якія растрацілі рэсурсы на СМІ, што не маюць наогул ніякіх рэйтынгаў і наогул ніяк не ўплываюць на выбаршчыка», — піша адзін з палітолагаў.

Адзін з лідараў РСЛ Міраслаў Мітрафанаў прызнаў свае памылкі як арганізатара кампаніі, аднак пры гэтым лічыць, што вінаваты таксама выбаршчык, які «аказаўся не гатовым» да прамых лозунгаў «Расійскага саюзу Латвіі». Сітуацыю, якая склалася ў рускай грамадзе, палітык пракаментаваў радкамі з песні нейкага шансанье: «Мы волки, и нас, по сравнению с собаками, мало».

Адзін з фактараў правалу РСЛ, безумоўна, звязаны з апатыяй рускамоўнага выбаршчыка. Паводле статыстыкі, больш за 40 працэнтаў ад агульнай колькасці выбаршчыкаў адмовіліся ад удзелу ў выбарах. І сярод гэтых 40 працэнтаў значная частка — гэта нелатышы. Праўда, абыякавасць электарату па сутнасці ёсць таксама праявай негатыўнасці падтрымваць радыкальныя змены, да якіх заклікае РСЛ.

Ёсць думка, што крыніца праблем — гэта назва партыі. Нагадаем, што ў студзені 2014 года на з'ездзе партыі «За правы чалавека ў адзінай Латвіі» (ЗаПЧЕЛ) было прынята рашэнне адмовіцца ад ранейшай назвы і называцца далей «Рускім саюзам Латвіі». Рэбрэндынг, калі верыць ініцыятарам, аказаўся карысным на пачатковым этапе. Як піша адзін з актывістаў РСЛ, «новая назва стала дэмакратычным выклікам палітыцы кіруючай эліты па будаўніцтву недэмакратычнай «латышскай Латвіі». Аднак пасля Майдану ў Кіеве назва, на яго думку, стала хутчэй маргіналізаваць рух. Быццам, у рускамоўнага насельніцтва ўзнік страх таго, што і ў Латвіі можа паўтарыцца нешта падобнае.

А вось расійскія СМІ лічаць, што РСЛ стаў ахвярай палітычнага ціску: «Рускі саюз Латвіі» атрымаў вельмі мала галасоў, паколькі ёсць дзяржаўная ідэалагічная ўстаноўка. Зусім нядаўна некалькі кіраўнікоў гэтай партыі былі запрошаныя спецслужбамі (Паліцыяй бяспекі) на допыт. Сістэма вельмі простая. Грамадству РСЛ падаваўся як партыя, якая прадстаўляе ў Латвіі інтарэсы Крамля, працуе на яго грошы і рыхтуе новы Данбас», — піша калінінградскі рэсурс baltya.ru.

Незалежныя палітолагі згодныя, што рускамоўны выбаршчык аказаўся не гатовы падтрымаць радыкальныя лозунгі РСЛ. Аднак матывавалі яго не страх перад латышскімі спецслужбамі, рэпартажы з Майдану, а перш за ўсё эканамічны прагматызм. Андрыс Кударс, латвійскі даследчык рускамоўнай грамады, адзначае: прычыны таго, што «ўкраінскі сцэнар» у Латвіі не спрацаваў, у асноўным крыюцца ў эканоміцы. «Ва Украіне дзяржаўныя структуры былі слабымі і неразвітымі. Напрыклад, пенсіянеры ў Крыме атрымлівалі нашмат больш нізкія пенсіі, чым у Расіі», — кажа даследчык. Латвія, па словах Кударса, прадстаўляе сваім жыхарам больш магчымасцяў. «Я сам нарадзіўся ў Латгаліі. І нават з улікам усіх сацыяльных праблем у рэгіёне, тут няма радыкалаў, якія былі б гатовыя ваяваць, каб стаць часткай Расіі. Людзі ведаюць, што ўмовы жыцця ў Расіі, асабліва за межамі Санкт-Пецярбурга або Масквы, нашмат горшыя».

Можна пагадзіцца з думкай, што рускія ў Латвіі паступова ўсведамляюць: латышы, з якімі яны жывуць і працуюць побач, становяцца ім значна бліжэйшымі і больш зразумелымі, чым былыя землякі-расіяне. Фармуецца свая палітычная культура, якая трымае дыстанцыю ад забабонаў расійскіх палітыкаў і іх саюзнікаў у Латвіі. Гэтую плынь прадстаўляе партыя «Згода», якая атрымала большасць на выбарах, хаця ў склад ураду не трапіла.

Праўда, не выключана, што Рускі свет у Латвіі яшчэ зможа праявіць сябе, паколькі «Згода» Ушакова — праект дастаткова малады, ідэалагічна слаба аформлены, і часам нават малазразумелы. Нарэшце, як кажуць кампетэнтныя асобы, у фінансавым плане «Згода» моцна залежыць ад Масквы.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Роберт Сэра



27-гадовы дэпутат парламента Венесуэлы ад праўрадавай Аб'яднанай сацыялістычнай партыі (PSUV), адзін з лідараў маладых чавістаў, быў забіты 2 кастрычніка разам з сяброўкай у прыгарадзе Каракаса. Навіна пра злачынства выклікала рост палітычнага напружання па ўсёй краіне. Урадавая прэса піша, што гэта пралог спробы вайсковага перавароту, паколькі ў Чылі ў 1972 годзе напярэдадні путчу Пінахэта, быццам, таксама забівалі прыхільнікаў рэжыму Альендэ. Улады ўжо заявілі, што сляды забойцаў вядуць у замежжа, дзе яно і было арганізаванае. У афіцыйных заявах гаворыцца, што кілеры былі нанятыя ў Маямі і ў Калумбіі, адкуль увогуле рыхтуецца ледзь не інтэрвенцыя ў Венесуэлу. Апазіцыя ў сваю чаргу лічыць, што меў месца тыповы крымінал (Венесуэла займае другое месца ў свеце па вулічных забойствах пасля Гандурасу), а ўлады робяць з гісторыі «медыйны цырк», каб стварыць апраўданне для закручвання гаек. Сапраўды, прэзідэнт краіны Нікалас Мадура ўжо заявіў, што збіраецца пачаць канфіскацыю зброі ў насельніцтва, а гэта можа стаць падставай для вобшукаў у офісах апазіцыі.

### Гурбангулы Бердымухамедаў



У прэсе з'явіліся спекуляцыі наконт таго, што менавіта прэзідэнт Туркменістана стане наступнай ахвярай ісламістаў, якія, быццам, збіраюцца стварыць у Туркменістане аналаг ісламскай дзяржавы, што ўжо абвешчаная ў Іраку. Быццам, у адпаведных цэнтрах актыўна вядуць падрыхтоўку «туркменскай вясны». Пра гэта, маўляў, сведчыць шэраг сутычак на афгана-туркменскай мяжы, якія маюць апошнім часам рэгулярны характар. Ахвярамі атак з боку Афганістана сталі ўжо каля паўсотні чалавек. Можна казаць пра зачыстку баявікамі памежных раёнаў ад мясцовага насельніцтва і падрыхтоўку аператыўных калідораў для прарыву праз афгана-туркменскую мяжу ўвесну 2015 года. Рэвалюцыю плануецца арганізаваць у тым ліку рукамі туркменскіх кланаў, якія яшчэ ў 1920-я збеглі з радзімы ў Афганістан, калі ў Цэнтральнай Азіі падаўлялі рух басмачоў. Як піша прэса, у Ашхабадзе разумеюць небяспеку і апошнім часам праводзяць кансультацыі з Іранам наконт сумеснай сістэмы бяспекі. Характэрна таксама раптоўнае з'яўленне прэзідэнта Туркменістана ў Душанбэ на нядаўнім саміце ШАС у якасці ганаровага госця, хоць краіна раней дэманстратыўна дыстанцыявалася ад любых рэгіянальных ініцыятыў. Застаецца дадаць, што, на думку аналітыкаў, сапраўднай прычынай спробаў змяніць туркменскі рэжым ёсць праект газаправоду Туркменістан — Афганістан — Пакістан — Індыя, які камусьці вельмі моцна не падабаецца.

### Эліс Бах Кухнке



42-гадовая Эліс прыняла прапанову новага прэм'ер-міністра краіны Стэфана Лоўфена стаць міністрам культуры. Усе згодныя, што Эліс — гэта самая незвычайная асоба ў новым шведскім урадзе. Справа не толькі ў тым, што гэта першы шведскі міністр з чорнай скурай (бацька Эліс паходзіць з Гамбіі). Новы міністр культуры вядомая ў краіне перш за ўсё як былая вядучая папулярнага маладзёвага шоў «Disneyclub», калі яе пачалі называць шведскай Брытні Спірс. Яе фірмовым знакам былі вялізарныя вушы а-ля Мікі Маўс. Працягвала Эліс шакіраваць публіку і далей, калі знялася ў ролі рабыні ў нейкім вестэрне. Апошнім часам Эліс працавала ў нацыянальным тэатры, кіравала Саюзам маладых хрысціянаў, займалася выхаваннем трох дзяцей і пісала біяграфію новай шведскай прынцэсы. З прызначэннем міністрам у Эліс пачынаецца новы этап. Прэса дастаткова пазітыўна каментуе выбар Лоўфена на пасаду кіраўніка Міністэрства культуры, хаця мала верыць, што экс-шоўвумэн будзе здольная вырашыць дзве галоўныя праблемы, якія стаяць перад яе дэпартаментам, — рэфармаваць сістэму субсідый для прэсы і арганізаваць фінансавую падтрымку публічных культурных устаноў.



# Палацы Алега Хаменкі

**Магчыма, нехта ўбачаць у гэтым тэксце пэўныя недарэчнасці, але я і не рабіў мэтай абсалютную дасканаласць, бо ўспаміны любога чалавека — гэта не толькі факты. Для мяне галоўнае — эмоцыі. У выпадку з вядомым музыкам Алегам Хаменкам — палац эмоцый.**

**Аляксандр Тамковіч**

## Палац дзяцінства

Калі Чыжоўку называюць адным з самых працоўных раёнаў Мінска, ніякіх перабольшванняў тут няма. Напэўна, гісторыкі сталічнага будаўніцтва распавядуць усё больш дэталёва, але наўрад ці нехта з іх будзе спрачацца з тым, што ўзнік гэты мікрараён ў сувязі з пашырэннем МАЗУ, то бок Мінскага аўтамабільнага заводу.

Мне распавядалі, што паблізу сучаснага МАЗу рамантавалі нямецкія танкі, а баракі, вельмі падобныя на лагерныя, па вуліцы Кабушкіна прастаялі, магчыма, з тых часоў да пачатку гэтага тысячагоддзя.

Чыжоўка стала ледзь не першым узорам так званых спальных мікрараёнаў, то бок тых, дзе ёсць жылыя дамы, магазіны, школы, дзіцячыя садкі, інфраструктура і г.д. Менавіта тады распрацавалі сістэму цэнтралізаванага будаўніцтва, своеасаблівага горада ў горадзе.

Пачалі будаваць гэты мікрараён у другой палове 60-х гадоў мінулага стагоддзя. Якраз пасля жудаснага землятрусу ў Ташкенце 1966 года. Там, напэўна, гэту новую сістэму забудовы горада і распрацавалі. Як вядома, на аднаўленні парушанага стыхіяй Ташкенту працавала шмат беларусаў, і па гэтай прычыне галоўнай вуліцай Чыжоўкі з'яўляецца Ташкенцкая. Яе нават спачатку думалі зрабіць праспектам. Ташкенцкі досвед вырашылі паўтарыць у беларускай сталіцы, а калі ўлічыць, што я нарадзіўся 4 красавіка 1967 года, то відавочна магу лічыцца равеснікам свайго мікрараёна.

Засялілі Чыжоўку пераважна былымі сялянамі і часткова тымі, хто меў непрыемнасці з савецкімі законамі, то бок былымі зэкамі. Яна была вельмі беларуская, але зусім не гарадская. Недзе я нават гаварыў, што гэта была прастора дзівоснага спалучэння рамантызму і нейкай крымінальшчыны, таму што ў адных дамах і нават пад'ездах лёс звёў вельмі розных людзей.

Менавіта ў гэта асяроддзе і трапіў мой бацька. Па пашпарце яго завуць Георгіем, а на самай справе імя было Жорж. Родам ён з Палесся, з вёскі Бранiслаў, што месціцца паміж Жыткавічамі, Мікашэвічамі і Туравым на маляўнічым беразе прытока Прыпяці рэчкі Случ.

Быў ён шостым дзіцём у сям'і, самым малодшым. Нарадзіўся перад самай вайной, у 1940 годзе. І хутка стаў сіратой, бо яго бацьку, майго дзеда, Зіновія Міхайлавіча, за сувязь з партызанамі расстралялі немцы. На тамтэйшай чыгунцы ён ладзіў «тэракты».

Калі пасля вайны афармляліся дакументы, «Жорж» стаў «Георгіем», так што мяне дзеля жарту можна называць Алегам Жоржавічам.

Браніслаў — была вельмі заможная і вялікая вёска, што па наш дзень заўважна ў тых мясцінах. Мае продкі калісьці набылі там шмат зямлі. Потым, канешне, уся яна стала дзяржаўнай маёмасцю, аднак некаторыя рэчы яшчэ нагадваюць пра тыя часы.

У мінулым годзе я нават зрабіў фота мясцовых краявідаў. Праглядаецца зробленая тады пад'ездная алея, захаваліся некалькі яблыняў, якія растуць ужо гадоў восемдзесят.

Такіх месцаў у Беларусі вельмі шмат. Гэта, як кажуць, не толькі «малая радзіма», гэта таткін — «родны кут».

Напэўна, калісьці абавязкова напішу кнігу пра свае карані. Яны даволі знатныя, нават дваранскія.

Бацька тэрміновую службу праходзіў у войсках сувязі. Здаецца, служыў амаль чатыры гады. Пасля арміі ў Жыткавічах, дзе выпраўлялі пашпарт, яму прапанавалі пайсці ў міліцыю. Там не хапала людзей, бо, як паведамілі яму, — сельсавет спаліў «антысавецкія элементы». І гэта 1964 год! Але бацька паехаў да свайго старэйшага брата Міхаіла ў Мінск.

Дзядзька Міхась быў міліцыянтам, у 1980-х гадах дaслужыўся да палкоўніка. Ён і падказаў уладкавацца на МАЗ, туды бацька пайшоў працаваць токарам.

Маці, Марыя Іосіфаўна, родам са Сталбцоўшчыны, з вёскі Шашкі. Па-руску сказалі б — «хорькi».

Вельмі люблю той старажытны край, асабліва лясы, адчуваю ў іх сябе абсалютна бяспечна.

Мая мама, яшчэ падлеткам, калі ёй было 14 ці 15 год, пасварылася са сваёй маці (маёй бабуляй, якую ў вёсцы звалі Катра, хоць была яна Кацярына) і ўцякла ў Мінск. Уладкавалася домработніцай у сям'ю савецкага афіцэра. Ён і дапамог па паўналецці зрабіць пашпарт. Працавала нянечкай у дзіцячым садку, а потым прыбіральшчыцай, дворнікам.

Такім чынам я — сын токара і прыбіральшчыцы. А пазнаёміліся яны ў інтэрнаце.

У 1969 годзе нарадзілася мая сястра Аксана. Цяпер яна мае некалькі вышэйшых адукацый. Працуе на МАЗе, дакладней, на іх прадпрыемстве «МАЗ-Купава».

У дзіцячыя садкі мы не хадзілі, не хапала месцаў. Бацькі — на працы, а мы сядзелі дома. Можна сказаць, самавыхаваліся. Хатнія дзеці.

Абодва былі схільныя да музыкі. Абодва хадзілі ў музычную школу. А перад гэтым я яшчэ хадзіў у музычны гурток пры звычайнай школе, дзе граў на акардэоне.

Напэўна, у маіх школах можна заблытацца, бо адначасова іх было адразу тры — звычайная (агульнаадукацыйная), музычная, мастацкая і яшчэ спартовая секцыя, якая чамусьці звалася «школа». Плюс розныя гурткі.

Дарэчы, бывала, што хобі прыходзілася абіраць з улікам яго кошту. У той жа музычнай школе, калі я туды прыйшоў, набор быў толькі ў класы трамбона і фагота. Фагот тады каштаваў 700 рублёў, а трамбон можна было купіць за 180–200. Такім чынам я стаў трамбаністам...

У дзяцінстве, як вядома, часу хапае на неверагодную колькасць рэчаў. На гандбол і футбол, напрыклад. Вялікае футбольнае поле месцілася якраз там, дзе зараз пабудавалі «Чыжоўка-арэну». Дваравы футбол у нас быў на даволі высокім узроўні. Хоць я ў дваровай камандзе быў далёка не лепшым футбалістам, падрыхтоўкі хапіла, каб потым за зборную Інстытута культуры пару разоў згуляць.

Зараз ужо амаль нічога не засталося, а ў дзяцінстве я вельмі любіў бегаць на чыжоўскае замчышча. Там былі рэшткі нейкіх муроў. Потым Антон Астаповіч (старшыня таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры — А. Т.) пацвердзіў маю здагадку пра старажытнае капішча. Там энергетыка вельмі моцная. Нават больш глыбінная, чым, скажам, у Лошыцкім парку.



Пра школу памятаю больш настаўнікаў, чым нейкае асабістае стаўленне да прадметаў. Вельмі цікавыя былі настаўнікі гісторыі, хіміі, нямецкай і беларускай моваў. Вучыўся я ў 117-й, а потым увесь клас перавялі ў 43-ю новазбудаваную школу, і ў яе прыйшлі, на мой погляд, даволі прафесійныя педагогі.

Канешне, у нейкім сэнсе яны на мяне вельмі моцна паўплывалі. Асаблівa настаўніца беларускай мовы Людміла Канстанцінаўна Дзядзюля і класны кіраўнік Юрый Уладзіміравіч Гармаш.

Розныя часткі нашага мікрараёна ставіліся адзін да аднаго варожа, што для савецкіх часоў было звыклай з'явай. Памятаю, калі трэба было з адной часткі Чыжоўкі трапіць у другую (з першай у другую, напрыклад), наўмысна бралі з сабой дзяўчыну, бо так не чапалі. Маглі абразіць, але не білі.

Бывала, біліся з Серабранкай. Адзін раз зімой біліся прама на лёдзе Чыжоўскага вадасховішча. Памятаю, міліцэйскі «казёл» ажно выскачыў на лёд.

Словам, звычайнае дзяцінства — разбітыя насы, гульні «ў вайну». На маёй галаве па гэты дзень захаваліся шрамы тых часоў.

## Палац «Палацу»

Не ведаю, як гэта правільна назваць, але перад алімпіядай 1980 года таксама была нейкая «лібералізацыя».

Над кожным пад'ездам чыжоўскіх пяціпавярховак звычайна ёсць казырок. Замовіць рэстаран тады, каб адсвяткаваць вяселле, было вельмі цяжка. Святкавалі ў кватэрах, а на тых казырках месціліся ансамблі, якія гралі такія «оўпэн-эйр» танцы. І да тых пад'ездаў сыходзілася вельмі шмат людзей паслухаць ансамбль, якія ўжо тады называлі — «група».

Па гэты дзень памятаю назву аднаго з такіх ансамбляў — «Шторм». Гралі не толькі нейкія полечкі, «мясаедаўскія», але, пад вечар, гралі «Бітлз», «Слэйд», «Смокі». Потым гэту з'яву заадміністравалі і скасавалі.

Зразумела, усё гэта вельмі прываблівала юнакоў. І мы збіраліся разам, нешта ігралі. Не ведаю, як, але тады ў Чыжоўцы ўся моладзь перапісвала табулатуры (спецыяльныя скарачэнні для запісу песняў — А. Т.). У музычных школах гэта пачалі вывучаць значна пазней.

Словам, у грамадскай свядомасці ўзнік нейкі музычны бум. Я тады нават сабе не прызнаваўся, што хачу быць артыстам, марыў стаць музыкантам. І не больш.

У 1984 годзе паступіў і Інстытут культуры. Чаму зрабіў менавіта такі выбар?

Адказаў на гэта пытанне шмат. Самы галоўны — запусціў матэматыку, а па музыцы ў мяне ўсё ішло вельмі добра. У інстытуце культуры не трэба было здаваць ні алгебру, ні геаметрыю.

Так атрымалася, што ў траўні я скончыў музычную школу, а ў



Маці, Марыя Іосіфаўна, Алег Хаменка і сястрычка Аксана, 1977 г.



Палац на фестывалі ў Кракаве, 2008 г.

чэрвені трэба было паступаць. Нягледзячы на тое, што ў мяне не было спецыяльнай музычнай адукацыі (музвучылішча), нешта я мог ужо сыграць. Скажам так — «на троечку».

Калі б конкурс быў вялікі, канкурэнцыі не вытрымаў бы, а тут — пашанцавала. У тым годзе «на духавых» не тое што быў недабор. Было безліч двоек па сачыненні. Такім чынам, узялі ўсіх, хто атрымаў станоўчыя адзнакі на экзаменах. І мяне ў тым ліку. Лёс.

Падчас вучобы стаў граць на вяселлях. Аднак сур'ёзна гэта было ўжо пасля вяртання з арміі ў 1987 годзе, і абумоўлівалася пэўнымі матэрыяльнымі абставінамі.

Канешне, як студэнтам дзённага факультэта нам плацілі стыпендыю, але 40 рублёў для маладых людзей — недастаткова. Хацелася прыстойна апрануцца, схадзіць да дзевак, выпендрыцца ў рэстаране і г.д.

За некалькі дзён вяселля я мог зарабіць 120 рублёў. Калі ў месяц іх было некалькі, то сума па тых часах атрымлівалася вельмі добрая. Больш, чым мой бацька зарабляў на МАЗе.

На вяселлях, дарэчы, і з'явілася тое, што потым стане музычным падмуркам «Палаца», бо гісторыя гурта пачыналася менавіта тады. Маецца на ўвазе фальклор.

На свой сорам, мы не ведалі, што ў беларускіх вёсках спяваюць так шмат вельмі цікавых і прыгожых песень. Памятаю, на пачатку «кар'еры вясельных музыкаў» мы не маглі падыграць знакамітую «Сто лят», проста не чулі раней гэту песню. Першы раз сыгралі яе ў мінорах, чым выклікалі ў слухачоў абурэнне. Пасля таго праколу пачалі ўсё запісваць, ствараць асабістую калекцыю.

...З Юрам Выдронкам і Юрам Беляковым мы вучыліся ў адной інстытуцкай групе: 16-я, эстрадна-духавая. З Выдронкам нейкі час гралі ў гурце з назвай «Парадокс», які афіцыйна быў прапісаны на заводзе «Інтэграл». А з тым жа Беляковым я сябрую ўжо больш за чвэрць стагоддзя, з восені 1987 года. У 1988 годзе да нас далучыўся Зміцер Карабач, які вучыўся «на харавым».

Якраз тады адбылася прэм'ера знакамітага фільма «Кабарэ» з Лайзай Мінэлі. Мне вельмі спадабалася стылістыка музычнага тэатра кабарэ. Нешта падобнае калісьці рабіў суперскі аркестр Эдзі Рознэра. Дарэчы, не ўсе ведаюць, што ў легендарнай «Карнавальнай ночы» здымаўся менавіта гэты аркестр. Потым савецкія ўлады яго разагналі, але той дух у музыкаў-духавікоў застаўся.

Вось і нам хацелася ўтварыць нешта падобнае. Палац музыкі, своеасаблівы.

Напэўна, так і ўзнікла ў свядомасці гэтае слова. На ўсіх еўрапейскіх мовах яно гучыць амаль аднолькава і мае аднолькавае значэнне.

Жартавалі мы таксама і накont Палацу кукурузных палачак. Чаму? Па-першае — смачна. Па-другое, акрамя іх і рагоў з капытамі на паліцах тагачасных крамаў нічога не было. Быў такі сумны жарт — што савецкіх кароў на бойні забіваюць дынамітам, і нічога, акрамя рагоў і капытоў, ад іх не застаецца...

На жаль, з часам змянілася сутнасць слова «Палац» у нас (палацы піянераў, пенсіянераў, прафсаюзаў, воднага спорту і г.д.) і на захадзе (палац-гатэлі альбо казіно). На самай жа справе «палац» — гэта такі ўласны храм для жыцця, які хочацца пакінуць нашчадкам і ў якім ёсць нешта велічнае, чыстае, боскае.

Калі мы ў 1992 годзе стварылі новую фольк-групу, узнікла пытанне пра назву, і я кажу: «Калі мы да вечара нічога не прыдумаем, то гурт будзе называцца «Палац».

Так і атрымалася. Потым усе ўпадабалі.

## Палац іншадумства

У тыя часы мы не баяліся марыць. Не было ніякіх абмежаванняў. Адбывалася татальная пераацэнка каштоўнасцей і арыенціраў. На ўсе рэчы глядзелі з пазіцый юнацкага максімалізму, і былі абсалютна ўпэўненымі, што Беларусь будзе размаўляць па-беларуску, не будзе ніякіх візаў, мы паспяхова выйдзем на еўрапейскі музычны рынак.

Памятаю, як Шушкевіч пачаў у парламенце размаўляць па-беларуску. Гэта была прыкмета пераменаў, новага мыслення.

Праз пэўны час стала відавочна, што высокае начальства цураецца мовы продкаў. Падчас святкавання 50-годдзя перамогі, у 1995-м, прыйшло адчуванне што ўсё спынілася, і краіна імгненна адкацілася ў савецкае мінулае. У тыя часы мы адносна крытычна выказаліся на гэты конт у розных інтэрв'ю.

З гэтага моманту «Палац» трапіў у няміласць, аб чым мне пазней расказалі глыбокапаважаныя людзі. Нас пачалі падціскаць. Гэта не была забарона. Гэта быў ціск. Але ў той час на такія рэчы яшчэ мала хто звяртаў пільную ўвагу. Асабліва мы. «Палац» быў цалкам паглыблены ў свае праекты. З большага ўсе яны былі звязаныя з еўрапейскімі фестывалямі. З тымі ж ангельскімі прадзюсарамі. Тады англічане перарабілі пад еўрапейскі рынак адну нашу вядомую кампазіцыю, і калі б мы там з'явіліся, гэты твор мог выцягнуць камерцыйны альбом і праграму.

Але... Па-першае, нам не далі візаў. Па-другое, увесь склад «Палаца» яны там не чакалі. Па-трэцяе, тагачасная палітычная напружанасць (прыйшла пасля рэферэндуму 1996 года) унесла значныя змены. І, скажам так, «змяшала ўсе карты».

Цікавасць да постсавецкага мастацтва скончылася даволі хутка. Праз некалькі год Захад зразумеў, што ў былым СССР па сутнасці нічога не змянілася. Надышло расчараванне.

Так атрымалася, што аднойчы спатрэбілася хутка знайсці замену аркестру Фінберга на «Экспо 2000» у Гановеры. Нічога прыстойнага чыноўнікі ад культуры не знайшлі, і для «Палацу» зноў наступіла адліга.

Нас нават узялі ў склад філармоніі, дакладней, створанага пры ёй «Белканцэрта». Словам, у маёй працоўнай кніжцы з'явіўся адпаведны запіс.

Менавіта ў гэты час і ўзнікла непрыемнае адчуванне ад таго, што рушыліся ўсе нашы камерцыйныя праекты. І не толькі нашы. Людзі, якія рэальна самастойна працавалі (у якасці прадпрымальнікаў, напрыклад) і зараблялі грошы асабістай актыўнасцю, адышлі па заробках у цень. А чыноўнікі, што сядзелі ў кабінетах дзяржаўных устаноў, імгненна сталі «гаспадарамі жыцця»...

Ішоў 2002 год. Менавіта тады ў краіну прыйшлі запазычаныя грошы, многія пачалі кідаць прадпрымальніцтва і ўладкоўвацца на пасады ў дзяржаўныя ўстановы. У людской свядомасці зноў пачалі змяняцца арыенціры. Прычым у бок Расіі. Новае пакаленне накіроўвалася на Усход. Там можна было зарабіць значна большыя грошы, чым на Захадзе. І мы, як і ўсе, сталі даволі часта выступаць у Маскве, з'ездзілі нават у Сібір.

Пратрымацца пад дзяржаўным дахам удалося да 2004 года, калі прайшло 10 год са дня першых прэзідэнцкіх выбараў, і наверсе ўзнікла жаданне змяніць Канстытуцыю, каб пазбавіцца ад «двух тэрмінаў».

Тады мы зрабілі абсалютна прынцыповы крок — выступілі супраць. Якім бы добрым ні быў прэзідэнт, калі ён ведае, што яго ніхто не зменіць, то ён абавязкова ператвараецца ў дыктатара. Ад гэтай спакусы не застрахаваны ніхто.

Пра гэта мы адносна гучна выказаліся на апазіцыйным мерапрыемстве. У той жа дзень усіх музыкаў «Палацу» (дзе б хто ні працаваў) звольнілі без тлумачэння прычын.

Самае цікавае, што па дакументах (начальнікі прыкрывалі адно меса) усіх нас звольнілі за гадзіну да таго, як мы прыйшлі на плошчу Бангалор.

Адным словам — беспрацоўныя. Плюс фактычная забарона на канцэртную дзейнасць у Беларусі. У той момант я сказаў сваім хлопцам, што «Палац», пераходзіць у стан дадатковай працы, то бок кожны павінен знайсці іншую магчымасць зарабляць. Асабіста я вырашыў рэалізаваць даўнішнюю задуму — паступіў у аспірантуру на культуралогію.

Не скажу, што было зусім проста, але ўсё вырашылі выдатныя адзнакі на іспытах, і ў 37 гадоў я зноў пачаў вучыцца.

«Разбаранілі» нас толькі ў 2009 годзе, за год да чарговых прэзідэнцкіх выбараў. Зноўку пачалася так званая лібералізацыя. Нас запрасілі ў адміністрацыю прэзідэнта, каб паведаміць — ёсць рашэнне ўсім «забароненым» зноў дазволіць выступаць.

Як вядома, адліга была нядоўгай. На тых выбарах я быў наглядальнікам, і на свае вочы ўбачыў, што такое выбары, што такое «голаСУванне» ў нашых умовах...

Праз паўтара гады мы цудам адыгралі канцэрт «20 год гурта ПАЛАЦ» па квітках у Мінску. Гэта асобная гісторыя, якая яшчэ чакае свайго часу.

Праз пару месяцаў, пасля знакамітага пытання Віталя Зыблюка да прэзідэнта, «чорныя спісы» значна скараціліся. З нас зноў знялі забарону на выступы.

## Палац культуры

Сёння «Палац» — восем паплечнікаў — гукаапператар і сем музыкаў. Плюс сябры, якія дапамагаюць вырашыць нейкія адміністрацыйныя пытанні.

У 2007 годзе я скончыў аспірантуру. Дысертацыю напісаў, але пакуль не абараніў — няма часу.

Так склаліся абставіны, што пачаў працаваць на кафедры «менеджменту культурнай дзейнасці», потым «рэжысуры эстрады». Выкладаю курсы «Тэхналогіі прадзюсавання», «Арганізацыя шоў-бізнэсу». Да таго ж пэўны час вёў аўтарскія праграмы на «Аўтарадыё» і «Радыё «Рацыя».

Часам гавару, што я беларускі культуртрэгер. Некалі да мяне патрапіў артыкул «культуртрэгерства — адмоўны і станоўчы сэнс», які мяне зачапіў. Здаецца, нешта такое я насамрэч і раблю. Бо да філасофа я, канешне, не дацягваю. Як не дацягваў да музыканта, бо маё выканаўчае майстэрства, мякка кажучы, даволі сціплае.

Прафесійны музыкант павінен быць вельмі добрым выканаўцам. З тэхнікай, з мелодыкай, з бездакорным валоданнем інструментам. Усяго гэтага ў мяне няма. Я магу граць, спяваць як артыст. Але ўзровень артыста — не ёсць узровень музыканта. Канешне, пішу тэксты, а не вершы, і як кампазітар — музыку, але гэта больш песні, чым творы. Дый мая дзейнасць звязаная з папулярызацыяй традыцыйнага фальклору, беларускай казкі, удзел у арганізацыі фестываляў, праца мадэратара-вядучага на розных імпрэзах — што гэта адным словам? Я вырашыў — культуртрэгерства.

У рускай мове гэтае азначэнне ўжываецца з нейкім іранічна-грэблівым адценнем. Відавочна, спалучэнне «беларускі культуртрэгер» — то бок чалавек, які для беларускай культуры «захоплівае жыццёвую прастору» і лічыць яе лепшай у свеце, — гучыць крыху штучна-смешна, але ў гэтым нешта ёсць. Мне прыкольна прадстаўляцца менавіта так.

У дачыненні да фальклорнай музыкі нельга гаварыць пра нейкую канкурэнцыю. Паміж «Палацам» і «Троіцай» або «Старым Ольсам». Гэта не канкурэнцыя, а даўняе сяброўства «місіянераў».

Іван Кірчук быў асобай, якая дала мне дадатковае асэнсаванне таго, як можа быць падстаўлены сцэнічны аўтэнтычны фальклор. У 1989-м я пабачыў яго малавядомы гурт на сцэне ДК прафсаюзаў. Гэта было вельмі важна ў тыя часы, калі мы стварылі «Палац». Тое было дадатковым аргументам на карысць абранага накірунку.

Тое ж самае тычыцца гурта «Стары Ольса». Менавіта пасля першых выступаў Зміцера Сасноўскага я пачаў аналізаваць гармонію і рытміку еўрапейскай сярэднявечнай музыкі, і гэта мне вельмі дапамагло ў вынаходцы прынцыпу электроннай аранжыроўкі.

Я думаю, што дзякуючы ў тым ліку і «палацаўскім хітам» беларускі шараговы слухач больш лёгка і прыязна пачаў прымаць няпростую музыку «Ольсы» і «Троіцы». Таму, хто прызвычаіўся слухаць адных, прасцей было зразумець іншых. Усе мы — валанцёры беларускай культуры. Ці ж бывае паміж такімі валанцёрамі канкурэнцыя?

**Аповед Алега Хаменкі запісаў**
**Аляксандр Тамковіч**

# Покліч вандроўнага дудара

## вечарына памяці Змітра Сідаровіча

Анатоль МЯЛЬГУЙ

**Напрыканцы мінулага тыдня ў гасцёўні сталічнай бібліятэкі імя Цёткі адбылася мемарыяльная вечарына, прысвечаная памяці вядомага беларускага паэта і музыканта Змітра Сідаровіча.**

Гэтую літаратурна-музычную сустрэчу, названую сугучна з лёсам Сідаровіча «Вандроўны дудар», ладзіў літаратурны тэатр «Арт.С», ініцыятарам і натхняльнікамі якога ўжо доўгія гады з'яўляюцца паэтка Аксана Спрынчан і музыкант Яраш Малішэўскі.

Яшчэ задоўга да пачатку вечарыны гасцёўня бібліятэкі была да адказу запоўнена прадстаўнікамі творчай інтэлігенцыі сталіцы: беларускімі літаратарамі, музыкантамі, аматарамі творчасці Змітра Сідаровіча. Гучала музыка гурта «Камелот», у якім доўгі час граў Зміцер і напісаў шмат кампазіцый, што ўвайшлі ў залаты фонд беларускай музыкі напрамкаў folk і medieval.

Паколькі Зміцер Сідаровіч найперш быў вядомы як бард, вандроўны дудар, то і вечарыну распачалі сакавітыя гукі беларускай дуды-мацянкі, на якой душэўна і ашчадна да традыцый зайграў адзін з вядучых імпрэзы — Яраш Малішэўскі. Яго памочніца і жонка Аксана Спрынчан зачытала некалькі класічных твораў Змітра з адзінага яго паэтычнага зборніка «Тры жалуды», якія прынеслі яму славу як паэту, рамантыку і рэканструктару музычна-паэтычных традыцый Вялікага Княства Літоўскага.

Зміцер Сідровіч быў частым госцем паэтычнага тэатра «Арт.С», заўсёды знаходзіў час завітаць у бібліятэку Цёткі. Пра гэта распавяла яе дырэктар Р. Багамольцава, якая пашкадавала, што ўсё іх сумесныя асветна-адукацыйныя планы, на жаль, не спраўдзіліся…

Як заўжды, эмацыйны і захапляльны расказ пра сумесныя падарожжы па розных кутках Беларусі і выступленні перад жыхарамі мястэчак і вёсак краіны чакаўся ад беларускіх літаратараў, з якімі ён сябраваў і часцяком дзяліў долю вандроўнага дудара. Такія згадкі і ўспаміны, радкі прысвячэнняў сябру і аднадумцу прагучалі з вуснаў паэтаў М. Скоблы, М. Кандратава, В. Шніпа, С. Мінскевіча, А. Спрынчан, пісьменніцы Л. Рублеўскай, фалькларысткі і гісторыка І. Клімковіч, спявака і педагога А. Галіча.

Аўтар гэтых радкоў падзяліўся ўспамінамі пра супрацоўніцтва са Змітром Сідаровічам у стварэнні інтэрв'ю і рэцэнзій для беларускіх выданняў, у прыватнасці для «Новага часу», распавёў пра яго жаданне запісаць і выдаць свой сольны альбом з аўтарскімі песнямі і інструментальнымі п'есамі.

Цікавымі падаліся ўспаміны ўдавы музыканта — Марыны Сідаровіч, якая дадала да яго партрэту невядомыя рысы Змітра як чалавека, творцы і музыканта. Напрыклад, цікава было даведацца пра тое, што Зміцер пачынаў сваё захапленне музыкай з «Beatles», што ён не меў музычнай адукацыі, але сам вывучаў нотную грамату, а гурт «Камелот» яны стварылі ў 1991 годзе разам з А. Кішкіным. Таксама сенсацыйна прагучаў факт, што Зміцер — кандыдат тэхнічных навук — займаўся праекціроўкай вежаў для сотавай сувязі па ўсёй краіне. Да таго ж, што ён рабіў тэарэтычныя разлікі ўстойлівасці будовы новай Нацыянальнай бібліятэкі.

Добра вядома, што ні адна сустрэча ў паэтычным клубе «Арт.С» не абходзіцца без музычных нумароў. А тым больш мемарыяльная, як «Вандроўны дудар», прысвечаная памяці барда Змітра Сідаровіча. Зноў жа на сцэну клуба выходзілі сябры Змітра.

І першым да выступлення перад наведвальнікамі вечарыны быў запрошаны гурт «Мерада», удзельнікі якога супрацоўнічалі са Змітром, стваралі песні на яго́ныя вершы. Адна з такіх — «Шыбуе дзядзька ў Вільню» — была выканана гуртом у складзе Ганны і Сціва Крамераў. Гэтая кампазіцыя, створаная на мяжы фолку і музыкі кантры, выклікала шмат пазітыўных пачуццяў, і слухачы папрасілі «Мераду» выканаць нешта на «біс». Таму прагучала лірычная кампазіцыя «Да нашага лета».

Яраш Малішэўскі нагадаў слухачам яшчэ адзін твор на верш Змітра — «Выправа», які слухачамі ўспрымаецца як частка гераічнага эпасу нашага народа.

Серж Мінскевіч вядомы не толькі як паэт, але і як бард. Паэтычны сэт Сержа быў падмацаваны і яго новым песнямі. Галоўная з іх, прысвечаная памяці Змітра Сідаровіча, з'яўляецца, так бы мовіць, адказам Змітру на яго самы вядомы твор — песню «А дзе ж тыя ваяры». Кампазіцыя Сержа мела назву «Беларускія ваяры вяртаюцца з вайны» і была ўспрынятая як тэматычны працяг творчасці Сідаровіча.

Музычную частку вечарыны памяці Змітра Сідаровіча завяршылі Таццяна Грыневіч-Матафонава і яе выхаванцы — Тамаш Сідаровіч і Адась Матафонаў, якія разам са Змітром Сідаровічам некалькі гадоў таму запісалі і выдалі ўнікальны для беларускай дыскаграфіі «Дзіцячы альбом» — метадалагічны зборнік апрацовак беларускага фальклору для выканання дзецьмі ў школе і дома. Пасталеўшыя падрослыя Тамаш і Адась імпэтна і даволі прафесійна, пад агульныя падпеўкі і апладысменты, выканалі песню «Кура-шчабятура» з «Дзіцячага альбома». Іншыя ж творы Змітра Сідаровіча ўжо гучалі ў іх выкананні пад кіраўніцтвам і акампанемент Т. Грыневіч-Матафонавай.

Завяршылася ж мемарыяльная вечарына ў бібліятэцы імя Цёткі народнымі найгрышамі, якія выканаў на сваёй дудзе-мацянцы Я. Малішэўскі, аддаючы даніну павагі і памяці першаму беларускаму вандроўнаму дудару — Змітру Сідаровічу.


Вядучыя вечарыны Яраш Малішэўскі і Аксана Спрынчан


Гурт «Мерада»


На сцэне Адась Матафонаў і Тамаш Сідаровіч


Свае вершы чытае Міхась Скобла


Успамінае Л. Рублеўская

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.info

Выдаецца з сакавіка 2002 г.

Галоўны рэдактар
**Кароль Аляксей Сцяпанавіч**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. +375 29 986-38-05, +375 17 268-52-81
novychas@gmail.com; novychas.info

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Замова № 1357

Падпісана да друку 10.10.2014. 8.00.
Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.